Пролетарии всех стран, соединяйтесь!

Связь советских органов между собой и массами — основа советского строительства.

# БЮЛЛЕТЕНЬ

## СОВЕТА НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ Б.С.С.Р.

2-й год издания № 9 (18) 15 ИЮЛЯ 1926 г.

ИЗДАНИЕ СНК БССР
МИНСК—1926 г.

## ЗЬМЕСТ.


Стар.

Да ўсіх савецкіх і грамадзкіх працаўнікоў вёскі, мястэчка і гораду, да ўсяго настаўніцтва, селькораў і актыўнага сялянства - 5

### Частка афіцыйная.

1. Пастановы III-яй Сэсіі ЦВК БССР VII-га скліканьня:
   - а) Аб зьменах у бюджэтах БССР на 1925—26 г. - 7
   - б) Аб дырэктывах складаньня бюджэту БССР на 1926-27 г. 7
   - в) Аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1926-27 г. 9
   - г) Аб мясцовай прамысловасьці - - - - - 11
   - д) Аб саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці і саматужна-прамысловай коопэрацыі - - - - 14
   - е) Аб проэкце кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы - - 15
   - ж) Па зацьверджаньню Палажэньня аб Гарадзкіх Саветах. 16
   - з) Аб зацьверджаньні Справіцельна-Працоўнага Кодексу - 17
   - і) Па пытаньню аб асновах Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу 17
   - к) Аб зацьверджаньні законаў, прынятых у парыяд між II і III Сэсіямі ЦВК БССР VII скліканьня - - 18
   - л) Пастанова III Сэсіі ЦВК БССР VII скліканьня (аб зьменах у складзе Ураду) - - - - - - - - 19
2. Пастанова ЦВК і СНК БССР аб сельска-гаспадарчым падатку на 1926-27 г. . . . . . . . . 20
3. Інструкцыя СНК БССР аб парадку ужываньня арт. 17 Палажэньня аб спагнаньні падаткаў . . . . 21
4. Пастанова СНК БССР аб прыцягненьні сялянства і мясцовых савецкіх органаў да ўдзелу у справе дзяржаўнага сельскага акладнога страхаваньня . . . . . 22
5. Пастанова СНК БССР аб абвяшчэньні дзяржаўнаю уласнасьцю помнікаў старажытнасьці, мастацтва, быту і прыроды . 24

ДАДАТАК: сьпіс . . . . . . . . . . 24

6. Пастанова СНК БССР аб парадку аховы помнікаў старажытнасьці, мастацтва, быту і прыроды, абвешчаных дзяржаўным скарбам . . . . . . . . . 28
7. Пастанова СНК БССР аб Інстытуце Беларускае Культуры. . 29
8. Цыркуляр аб ліквідацыі садоў і садова-гародных гаспадарак дзяржмаемасьцяй, у якіх плошча не перавышае двух дзесяц. 30
9. Правілы унутранага распарадку у вэтэрынарна-лячебных установах БССР . . . . . . . . . 32
10. Інструкцыя для вучастковага вэтэрынарнага ўрача . . 35
11. Постановление ОКВК при НКЗ БССР по делу № 264—1926 г. 37
12. Инструкция по истреблению волков в пределах БССР . . 43
13. Цыркуляр аб парадку правядзеньня экспэртызы западазрэных у запраўднасьці грашовых знакаў і усякага роду каштоўных папер, якія падлягаюць вырабу у Дзяржзнаку (Госзнак) 44
14. Цыркуляр аб мерапрыемствах органаў суду і пракуратуры па барацьбе з пажарамі . . . . . 44
15. Инструкция о порядке учета оплаты коммунальных услуг и ликвидации по ним задолженности госучреждений, предприятий и др. потребителей . . . . . 46
16. Абежнік аб парадку укомплектаваньня школ настаўнікамі . 49
17. Цыркуляр аб апецы над душэўна-хворымі . - - 50
18. Цыркуляр аб бясплатнай мэдычнай дапамозе сялянству . 51
19. Вопросы и ответы . . . . . . . . . 51

## Частка не афіцыйная.

20. Кароткі агляд становішча народнае гаспадаркі БССР за 1-ае паугодзьдзе 1925-26 г. . . . 53
21. Сельская гаспадарка БССР ва 1-ае поугодзьдзе 1925-26 г. . 59
22. Основы водно-мелиоративного Кодекса БССР. Проект - - 67
23. К основам водно-мелиоративного кодекса. Доклад Нар. Ком. Земледелия т. Прищепова на заседании СНК (по стенографической записи) . . . . . . . 78
24. Папраукі у законе аб сельска-гаспадарчым падатку - - 84
25. Памятники истории культуры, быта, искусства и природы на территории БССР. И. А. Сербов - - - - - - - - - 86
26. Проект Кодекса законов о браке, семье и опеке и интересы крестьянства Б. Ватаци - - - - - - 77
27. Экономічнае становішча Чэрыкаўскага району Калінінскае Акругі. - - - - - - - - - - - 91

## Да ўсіх савецкіх і грамадзкіх працаўнікоў вёскі, мястэчка і гораду, да ўсяго настаўніцтва, селькораў і актыўнага сялянства.

### *Паважаныя таварышы!*

Савет Народных Камісараў нашай рабоча-сялянскай Рэспублікі ўжо другі год выдае свой часопіс „Бюлетэнь Савету Народных Камісараў БССР“.

Мэтай і задачамі гэтага часопісу з'яўляецца ня толькі даць шырокім колам мясцовых працаўнікоў афіцыйны матар'ял, пастановы рабоча-сялянскага Ураду БССР і паасобных ведамстваў, але і даць належнае тлумачэньне гэтых матар'ялаў і пастаноў.

Акрамя гэтага Савет Народных Камісараў і рэдакцыя часопісу ставяць яшчэ задачу высьвятленьня на старонках „Бюлетэню“ ўсіх бакоў жыцьця гораду, вёскі і мястэчка ўва ўсіх яго праявах.

Старонкі нашага часопісу павінны адбіваць дзейнасьць і працу ня толькі мясцовых савецкіх і грамадзкіх устаноў і паасобных працаўнікоў. На гэтых старонках павінна знайсьці месца апісаньне працы і мерапрыемстваў па ўсіх галінах гаспадарчага, культурнага і палітычнага жыцьця вёскі і мястэчка, бытавых і нацыянальных запатрабаваньняў селяніна і местачковага жыхара, іхнія погляды на тое ці іншае мерапрыемства Савецкай улады, іхнія адносіны да гэтых мерапрыемстваў.

Наогул—рэдакцыя часопісу „Бюлетэнь“ ставіць сваёй мэтай асьвятляць грамадзкае, гаспадарчае, культурнае, палітычнае і бытавое жыцьцё Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі ўва ўсёй яго многачыннасьці і ўва ўсіх яго праявах.

Мэта гэтая ня можа быць дасягнута сіламі толькі працаўнікоў рэдакцыі наватігады, калі-б іх было на многа разоў больш. Яна можа быць дасягнута толькі агульнымі сіламі, агульнай працай усіх грамадзкіх і культурных сіл гораду і вёскі. Ажыцьцяўленьне пастаўленай мэты магчыма толькі пры ўдзеле, пры шырокім супрацоўніцтве ў часопісу кожнага савецкага і партыйнага працаўніка, кожнага ўдзельніка грамадзкай працы, кожнага актыўнага грамадзяніна.

Часопіс будзе цікавым і карысным толькі тагды, калі ў ім будзе адбівацца ўсё, што робіцца ў галіне пабудаваньня нашай гаспадаркі, культуры і быту. Аб гэтым усім павінны пісаць у наш часопіс „Бюлетэнь“ тыя працаўнікі і тыя грамадзяне, якія хочуць дапамагчы партыі і Савецкай уладзе ў іх працы па падняцьцю культуры і дабрабыту нашай краіны.

Яны павінны ня толькі самі пісаць у „Бюлетэнь“ артыкулы і запытаньні, але і падаваць у Рэд. Кал. свае думкі аб тым, якія пытаньні патрэбна было-б абмеркаваць на старонках „Бюлетэню“, каб Рэд. Кал. магла, адыходзячы ад гэтых прапазыцыяў, зьмяшчаць у „Бюлетэні„ толькі сапраўды жыцьцёвы, каштоўны, патрэбны для самых шырокіх колаў вясковых і местачковых працаўнікоў і грамадзкіх дзеячоў, матар‘ял.

Да гэтага пісаньня, да супрацоўнічаньня ў часопісу „Бюлетэнь“ і да падачы думак—аб чым пісаць—Рэдакцыйная Калегія і заклікае ўсіх мясцовых працаўнікоў, і ўсё сьвядомае грамадзянства.

З таварыскай пашанай

Заг. Арганізацыйнага Аддзелу Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **Лібман.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Старшыня Рэдакцыйнай Калегіі Бюлетэню СНК БССР **М. Мароз.**

15-га ліпеня 1926 г.
г. Менск.

# Пастановы III-яй Сэсії Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае ССР VII-га скліканьня.

## Аб зьменах у бюджэтах БССР на 1925-26 г.

Заслухаўшы даклад аб зьменах ў бюджэтах БССР на 1925-26 год у зьвязку з рашэньнямі, прынятымі III Сэсіяй ЦВК СССР па адзінаму Дзяржаўнаму бюджэту Саюзу ССР, III Сэсія ЦВК БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Канчаткова зацьвердзіць бюджэты БССР на 1925-26 год у сумах:

а) дзяржаўны бюджэт па прыбытках - - - 36.191.156 р.
дзяржаўны бюджэт па выдатках - - - 36.191.156 р.

б) свод мясцовых бюджэтаў па прыбытках 26.189.702 р.
свод мясцовых бюджэтаў па выдатках - 26.189.702 р.

2. Запрапанаваць усім ведамствам і выканкомам, пры выкананьні зацьверджаных бюджэтаў, прадугледжваць максімальную экономію ў сродках і суровую бюджэтную дысцыпліну, адначасова імкнучыся да найбольш поўнага і правільнага выкарыстаньня ўсіх даходных рэсурсаў Рэспублікі.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі**.

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб дырэктывах складаньня бюджэту БССР на 1926-27 бюджэтны год.

Заслухаўшы даклад аб пэрспэктывах і асноўных пачатках складаньня бюджэту на 1926-27 бюджэтны год, III-я Сэсія ЦВК БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Ухваліць прынцыпы і вылічэньні, паложаныя Саветам Народных Камісараў у аснову пабудаваньня дзяржаўнага і мясцовага бюджэту на 1926-27 год.

2. Адзначаючы, што ў сувязі з заканчваючымся аднавіцельным процэсам народнае гаспадаркі, далейшы ўздым яе будзе працякаць больш паволі, чым у пэрыяд аднаўленьня, мець на ўвазе, што далейшы рост бюджэтаў БССР будзе ісьці больш паніжаным тэмпам.

3. З прычыны таго, што далейшае разьвіцьцё народнае гаспадаркі, а значыць і бюджэту, знаходзіцца ў залежнасьці ад узмацненьня і разьвіцьця вытворчых сіл Рэспублікі, лічыць неабходным пашырэньне бюджэту на наступны 1926-27 г. накіраваць галоўным чынам на павялічэньне асыгнаваньняў для аднаўленьня і абсталяваньня прамысловасьці (у тым ліку мясцовай і саматужнай) і для разьвіцьця сельскай гаспадаркі, як шляхам асыгнаваньняў па каштарысах ведамстваў, так і па лініі крэдытаваньня і выдачы беззваротных падсобкаў.

4. Прымаючы пад увагу, што поўнае задаваленьне культурных патрэб насяленьня можа быць дасягнута толькі пры выстарчаючым разьвіцьці вытворчых сіл краіны, прызнаць магчымым далейшае павялічэньне расходаў на культурныя патрэбы рабочых і сялян толькі па меры росту матар'яльных рэсурсаў Рэспублікі.

5. Імкнучыся да задаваленьня неабходных гаспадарчых і культурных патрэб насяленьня БССР і лічачыся з абмежаванасьцю бюджэтных рэсурсаў, прызнаць неабходным: а) зьвярнуць асаблівую ўвагу на выяўленьне скарыстаньняў усіх даходных крыніц дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў, імкнучыся ў асаблівасьці да павялічэньня непадатковых даходаў і павышэньня ўдзельнай іх вагі ў бюджэтах; б) прапанаваць усім установам і ведамствам пры складаньні дзяржаўнага бюджэту на 1926-27 г. праяўляць максымальную экономію і ашчаднасьць, асабліва да расходаў чыста адміністрацыйных, прадугледжваць далейшы рост расходаў па сваіх ведамствах галоўным чынам на вытворчыя і соцыяльна-культурныя патрэбы.

6. Новае пашырэньне сеткі па ўсіх ведамствах лічыць дапусьцімым толькі пры ўмове мэтазгоднасьці і строгага абаснаваньня і выключна пры наліччы належнага дазволу адпаведных органаў Ураду.

7. Прызнаць немагчымым агульнае павялічэньне заработнай платы ў 1926-27 г., падцягваючы, аднак, некаторыя групы ніжэйшых служачых, а гэтак сама павялічваючы заработную плату некаторым спэцыялістам, якія працуюць у вытворчых народных камісарыятах (як па дзяржаўнаму, гэтак і па мясцоваму бюджэтах).

З мэтаю ўпарадчаньня сыстэмы заработнай платы лічыць неабходным правесьці да пачатку бюджэтнага году дзяржаўнае нормаваньне заработнай платы з устанаўленьнем цьвёрдых штатных номэнклятур пасад, з прысваеньнем кожнай пасадзе вызначанага акладу, не дапушчаючы пры гэтым пашырэньня існуючых штатаў, імкнуцца да падняцьця кваліфікацыі працаўнікоў і абавязковага скарачэньня штатаў.

8. У мэтах найбольш поўнага выяўленьня ступені задаваленьня патрэбнасьцяй установ прызнаць неабходным, каб адначасова з каштарысамі ведамстваў па бюджэтах разглядаліся і зацьвярджаліся таксама каштарысы даходаў і расходаў ведамстваў па іх спэцыяльных сродках.

9. Пры пабудаваньні мясцовых бюджэтаў на 1926-27 г., поруч з паказанымі вышэй дырэктывамі, лічыць неабходным:

а) у мэтах усіленьня далейшага разьвіцьця гарадзкое гаспадаркі вылучыць з агульна-акруговых бюджэтаў гарадзкія бюджэты ўсіх гарадоў БССР;

б) прадоўжваць практыку вылучэньня местачковых бюджэтаў;

в) імкнуца да далейшага пашырэньня і ўзмацненья раённых бюджэтаў;

г) увесьці складаньне сельскімі саветамі прыходна-расходных каштарысаў, як матар'ялаў для раёнаых бюджэтаў; адначасова ўвесьці, у выглядзе практыкі, вылучэньне ў кожнай акрузе для аднаго з найбольш моцных сельскіх саветаў і сельскага бюджэту;

д) утварыць рэспубліканскі фонд рэгуляваньня бюджэтаў акруг;

е) утварыць у складзе акруговых бюджэтаў фонды доўгатэрміновага крэдытаваньня комунальных і прамысловых прадпрыемстваў мясцовага значэньня, пераведзеных на гаспадарчы разрахунак;

ж) да складаньня мясцовага бюджэту прыцягнуць шырокія масы працоўных гораду і вёскі.

10. Улічваючы некаторыя затрудненьні з казармамі ў сувязі з тым, што на тэрыторыі БССР зьнішчана жылая плошча за часы імпэрыялістычнай вайны, мець на ўвазе гэты факт пры складаньні саюзнага, дзяржаўнага рэспубліканскага і мясцоваага бюджэтаў на 1926-27 г. з мэтай павялічэньня асыгнаваньняў на патрэбы ваеннага ведамства.

11. Улічваючы налічча ў сучасны момант асноўных прадпасылак цьвёрдага бюджэту, прызнаць, што бюджэт 1926-27 г. павінен быць своечасова складзен і зацьверджан да пачатку гаспадарчага году.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Час. вык. абав. Сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1926-27 год.

Заслухаўшы даклад аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1926-27 г., III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Адзначыць, што зьмены, унесеныя ў сыстэму абкладаньня сельскіх гаспадарак на 1926-27 г., а іменна: прыцягненьне да падатку скупнасьці даходаў гаспадаркі, усіленьне прогрэсыўнасьці ставак падатку і ўпрошчаньне парадку абкладаньня прыводзяць сельска-гаспадарчы падатак у большую, чым да гэтых часоў, адпаведнасьць з моцаю і плацежаздольнасьцю, як кожнае асобнае гаспадаркі, гэтак і цэлых раёнаў, палягчаюць падатак для бяднейшых і сярэдніх гаспадарак і павялічваюць яго для гаспадарак заможных, робяць закон аб падатку больш зразумелым сялянству.

2. Прызнаць, што павялічэньне процантных адлічэньняў ад сельска-гаспадарчага падатку ў мясцовы бюджэт усільвае магчымасьць далейшага разьвіцьця мясцовай гаспадаркі.

3. Лічыць, што ўстаноўлены для БССР мінімум не абкладаемага сельска-гаспадарчым падаткам даходу 30 руб. на едака павінен вызваліць ад падатку 20 проц. усіх сялянскіх гаспадарак Рэспублікі.

4. Прызнаць, што мерапрыемствы ЦВК і СНК па сельска-гаспадарчаму падатку, прынятыя ў дадатак і разьвіцьцё агульнага саюзнага законадаўства, а іменна: а) выключэньне з абкладаньня не-

каторых другарадных даходаў (аўцаводзтва і птушніцтва); б) абмежаваньне абкладаньня другіх другарадных даходаў (садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства) і в) прадстаўленьне мясцовым выканаўчым камітэтам права абкладаньня іншых спэцыяльных галін сельскае гаспадаркі і неземляробчых заработкаў,—зьяўляюцца правільнымі і адпавядаючымі агульнай эканомічнай і палітычнай абстаноўцы БССР.

5. Лічыць, што для выкананьня задач, паложаных у аснову новага закону па сельска-гаспадарчаму падатку неабходна: а) зьвярнуць вялікую ўвагу мясцовых органаў на практыку правядзеньня сельска-гаспадарчага падатку і ўцягнуць актыўныя сілы сялянскіх мас да дапамогі органам улады, б) работу па вызначэньню абкладаемага даходу і акладаў сельска-гаспадарчага падатку праводзіць асабліва ўважліва, з падрабязным падрахункам заяў і скарг насяленьня і шырокім скарыстаньнем актыўнасьці самога сялянства, в) адначасова павесьці рашучую барацьбу з укрывацелямі об'ектаў абкладаньня.

6. Прызнаць неабходным правільнае і згоднае з агульным заканадаўствам па сельска-гаспадарчаму падатку ажыцьцяўленьне раёнными падатковымі камісіямі прадстаўленага ім права поўнасьцю і часткова выключаць з абкладаньня неземляробчыя даходы асобных бяднейшых сялянскіх гаспадарак, прыцягненьне да актыўнага ўдзелу ў працы камісіі саміх плацельшчыкаў падатку, а гэтак сама рэгулярнае і неаслабнае інструктаваньне і назіраньне за работай раёнвых падатковых камісій.

7. У мэтах сваечасовага выкананьня і задаваленьня даходнай часткі бюджэту на 1926-27 год лічыць неабходным закончыць магчыма скарэй і не пазьней устаноўленых тэрмінаў усе работы па вылічэньню акладаў падатку і выдачы акладных лістоў з тым, каб сялянства зараней ведала разьмер належачых ім плацяжоў і магло-б не чакаючы канца тэрміну, прыступіць да выплаты.

8. Прымаючы пад увагу, што ў шэрагу раёнаў, як паказала падрыхтавальная кампанія па правядзеньню ў жыцьцё палажэньня аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1926-27 г., неземляробчыя заработкі (заработкі ад адхожых і саматужных промыслаў, заработная плата па найму, у тым ліку і ад лесараспрацоўкі) пры ўключэньні ў абкладаемы даход сельскае гаспадаркі могуць аказацца абкладзенымі вышэй, чым тыя самыя заработкі, ня зьвязаныя з сельскай гаспадаркай і абкладаемыя падаходным і прамысловым падаткамі, і што гэта можа прывесьці да няроўнамернага абкладаньня розных груп сельскіх гаспадарак аднолькавай моцнасьці з прычыны невыстарчаючай гібкасьці ставак абкладаньня норм даходнасьці,—даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў у тэрміновым парадку, на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР ад 29 чэрвеня г.г. ўнесьці неабходныя дадаткі і зьмены ў выданыя пастановы і інструкцыю аб сельска-гаспадарчым падатку з падрахункам выказаных на Сэсіі ЦВК пажаданьняў.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР. **А. Чырвякоў.**

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР. **У. Ігнатоўскі.**

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

## Аб мясцовай прамысловасьці.

Выходзячы з таго, што мясцовай прамысловасьці трэба будзе на працягу бліжэйшага часу выканаць надзвычайна важную задачу ў справе агульнага росту прамысловай продукцыі ў БССР, III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту прызнае неабходным правядзеньне наступных мерапрыемстваў, накіраваных да ўтварэньняспрыяючых умоў для аднаўленьня і пашырэньня мясцовай прамысловасьці:

1. Цалкам дапамагаць вызначыўшамуся і зусім правільнаму імкненьню ў акругах і раёнах ня толькі з боку дзяржаўных, але і коопэрацыйных організацый да магчыма шпарчэйшага ўздыму на належную вышыню мясцовай прамысловасьці.

Ініцыятыва мясцовых выканаўчых камітэтаў і асобных груп насельніцтва, якія жадаюць прымаць удзел з сваім капіталам у рабоце па аднаўленьню асобных прамысловых прадпрыемстваў, павінна цалкам спаткаць дапамогу з боку акруговых выканаўчых камітэтаў, цэнтральных організацый і Народных Камісарыятаў.

2. У цэнтры ўвагі пры разгортваючайся мясцовай прамысловасьці паставіць у першую чаргу наступныя галіны прамысловасьці:

а) дрэваапрацоўчую, смалакурэньне і інш.;

б) харчовую (маслабойную, бульбаапрацоўчую і асабліва млынарную);

в) па апрацоўцы каштоўных іскапаемых (тарфяную, кафельную і асабліва цаглянную);

г) мясцовую электрыфікацыю і падсобную рамонтна-мэханічную прамысловасьць для сельскае гаспадаркі.

3. Прызнаць неабходным, у процэсе разьвіцьця мясцовай прамысловасьці, зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўцягненьне сельскіх саветаў і сялян, на аснове гаспадарчай іх зацікаўленасьці, у работу па аднаўленьню такіх дробных прадпрыемстваў, якія абслугоўваюць сялянства наогул і даннае сяленьне у прыватнасьці (млыны, лесапілкі, маслабойкі, ваўначоскі), маючы на ўвазе што пры гэтым магчыма выяўленьне і павялічэньне вытворчых прыбыткаў сельсаветаў.

4. Лічыць неадкладным зьвярнуць больш увагі на мясцовую электрыфікацыю і ў гэтых мэтах адпаведна ўвязаць работу мясцовай прамысловасьці з электрастанцыямі, імкнучыся да магчыма поўнай нагрузкі апошніх, пры адначасовым зьніжэньні таксавай вартасьці адпускаемай для мясцовай прамысловасьці электрычнай энэргіі.

5. Аднэй з найбольш істотных задач у рабоце крэдытных установаў лічыць задаваленьне грашовымі сродкамі мясцовай прамысловасьці ў мэтах дапамогі такім шляхам коопэраваньню аднастайных дробных вытворчых адзінак.

6. Утварыць адпаведныя ўмовы для ўцягненьня прыватнага капіталу ў мясцовую прамысловасьць, заахвочваючы арэнду тых прадпрыемстваў, якія з-за недастачы сродкаў ня могуць быць адноўлены сіламі самое дзяржавы.

7. Пасьля таго, як пройдзе тэрмін арэнды прадпрыемстваў, зданых прыватным асобам, пакідаць у руках дзяржавы толькі тыя прадпрыемствы, правільнае функцыянаваньне якіх можа лічыцца забясьпечаным у сэнсе дастатку сродкаў і даставы сырцу, выходзячы пры гэтым з неабходнасьці захаваньня за дзяржаўнай прамысловасьцю экономічнай перавагі ў галіне мясцовай прамысловасьці, з сувязі данага прадпрыемства з сельскай гаспадаркай наогул і ступені ўплыву яго на сялянскую гаспадарку ў асаблівасьці ( пераапрацоўка зерня і г. д. ).

8. Лічыць неабходным устанаўленьне спачатку 1926-27 бюджэтнага году такога-ж парадку адабраньня даходаў мясцовай дзяржаўнай прамысловасьці, які існуе ў адносінах прамысловасьці, падлеглай ВСНГ БССР з тым, каб у мясцовых прадпрыемствах, у мэтах усіленьня іх асноўных і зваротных сродкаў, заставалася значная частка іх прыбыткаў.

9. Для ўтварэньня неабходных зваротных сродкаў мясцовай дзяржаўнай прамысловасьці прыцягнуць банкаўскі крэдыт як каротка-тэрміновы, гэтак і доўгатэрміновы. Прызнаць, што банкаўскімі ўстановамі па абслугоўваньню мясцовай прамысловасьці крэдытам павінны па пераважнасьці зьявіцца Комунальны банк, Гандлёва-Прамысловы банк, Сельска-Гаспадарчы банк і Дзяржаўны банк, паставіўшы адначасова перад гэтымі банкамі пытаньне аб патаненьні і ўпрошчаньні форм крэдыту для мясцовай прамысловасьці, асабліва па доўгатэрміноваму крыдыту.

10. Пастанову Савету Народных Камісараў аб організацыі акруговых комунальных комбінатаў з вытворчым ухілам распаўсюдзіць на раёны, дзе для гэтага ёсьць адпаведная экономічная магчымасьць і гаспадарчая мэтазгоднасьць.

11. У мэтах плянавага аднаўленьня асноўнага капіталу лічыць неабходным утварэньне амортызацыйных фондаў ва ўсіх прадпрыемствах і аб'яднаньнях мясцовай прамысловасьці у тым ліку і ў арэндаваных прадпрыемствах.

12. Усіліць работу акруговых выканаўчых камітэтаў па плянаваму разьвіцьцю мясцовай прамысловасьці, асабліва лясной, млынарнай і цаглянай; устанавіць адпаведныя таксы на выкананьне заказу; адмовіцца ад натуральнай аплаты, перавёўшы яе на грашовую; выявіць сабекошт продукцыі і намеціць плян палепшаньня абсталяваньня; вырашэньне організацыі новых прадпрыемстваў сельскага значэньня ўскласьці на акруговыя выканаўчыя камітэты, а раённага і акруговага значэньня—на ВСНГ.

13. Прызнаць неабходным з 1926-27 вытворчага году зьдзяйсьненьне плянаваньня мясцовай дзяржаўнай і коопэрацыйнай прамысловасьці нараўне з агульна-рэспубліканскай дзяржаўнай. Плянаваньне распаўсюдзіць і на прамысловую дзейнасьць працоўных колектываў.

14. Прызнаць лішняе драбленьне мясцовай прамысловасьці, у асаблівасьці мэталічнай, вельмі непажаданым, з прычыны чаго лічыць неабходным захаваньне ў кожнай акрузе, па магчымасьці, па аднаму больш абсталяванаму прадпрыемству, якое магло-б, паміма вядзеньня сваіх комэрцыйных опэрацый, таксама быць тэхнічна інструктуючым і дастаўляючым цэнтрам у адносінах да акружаючых дробных саматужных прадпрыемстваў, робячы ім дапамогу ў рэмонце сельска-гаспадарчага інвэнтару, задавальняючы запаснымі часткамі, дробнымі ўстаноўкамі і г. д.

15. Прызнаць належачай урэгуляваньню заработную плату ў галіне мясцовай прамысловасьці, бяручы пад увагу пры гэтым неабходнасьць росту вытворчасьці працы і патаненьня продукцыі.

16. Высокія цэны на продукцыю мясцовай прамысловасьці (вышэй дзяржаўных), прыводзяць да неабходнасьці прыняць тэрміновыя меры з боку акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў да зьніжэньня гэтых цэн, дзеля чаго прызнаць неабходным памяншэньне высокіх накладных расходаў, а таксама зьніжэньне сабекошту выпускаемай продукцыі.

17. Канчаткова спыніць скарыстаньне сродкаў коопэрацыйных і іншых організацый на ажыцьцяўленьне неабаснованых плянаў. У сувязі з гэтым устанавіць больш поўны контроль пры даваньні одзываў і зацьверджаньні статутаў і плянаў, а гэтак сама пры праверцы выкананьня гэтых плянаў: разам з тым весьці сыстэматычную барацьбу з безгаспадарнасьцю і іншымі шкоднымі зьявамі ў мясцовай прамысловасьці.

18. З прычыны таго, што падатковы цяжар не заўсёды адпавядаў інтарэсам разьвіцьця мясцовай прамысловасьці (па асобных галінах), прызнаць неабходным устанаўленьне роўнамернасьці абкладаньня яе, маючы на ўвазе пры гэтым район. месца знаходжаньня прамысловасьці і ўмовы збыту продукцыі.

19. Разьмежаваць прадпрыемствы рэспубліканскага і мясцовага значэньня, а апошнія паміж районнымі і акруговымі выканаўчымі камітэтамі, каб гэтым узмоцніць праўнае і гаспадарчае становішча апошніх.

20. Аднэй з істотных крыніц фінансаваньня мясцовай прамысловасьці лічыць водпуск сродкаў па надзвычайнаму дзяржаўнаму бюджэту, пры ўтварэньні якога на 1926-27 бюджэтны год расход гэты мець на ўвазе.

21. Прызнаць, што фінансаваньне прыватных здаровых прамысловых прадпрыемстваў павінна таксама праходзіць праз крэдытныя пляны банкаў на аснове пагоджаньня з органамі, якія рэгулююць мясцовую прамысловасьць.

22. У адносінах працоўных колектываў вытворчага характару даць дырэктыву паступовага перайначаньня іх з органаў барацьбы з беспрацоўем у комэрцыйныя прадпрыемствы і трымаць курс на адабраньне іх з кіраўніцтва працоўнымі колектывамі і перадачу, у залежнасьці ад значэньня, ВСНГ, акруговым выканаўчым камітэтам і районным выканаўчым камітэтам.

23. Паставіць перад ВСНГ задачай уцягненьне ў сфэру ажыцьцяўляемага ім рэгуляваньня дзяржаўнай прамысловасьці таксама мясцовай прамысловасьці ўва ўсіх яе элемэнтах з тым, каб вытворчыя програмы апошняй маглі быць сумаваны і ўвязаны з вытворчымі програмамі ВСНГ, у прыватнасьці, уключаючы ў агульны плян дастаўы сырцу і мясцовай прамысловасьці. Для гэтай мэты пры акруговых выканаўчых камітэтах вылучыць адпаведныя органы мясцовай прамысловасьці, якія па пытаньнях вытворчых плянаў, а гэтак сама плянаваe дастаўы сырцу і імпортных тавараў павінны быць падлеглы ВСНГ. Адначасова з гэтым лічыць неабходным адабраньне мясцовых прамысловых прадпрыемстваў з кіраўніцтва Управы Комунальнае Гаспадаркі НКУС. Даручыць Саўнаркому канчаткова разьмежаваць функцыі паміж ВСНГ і Управай Комунальнае Гаспадаркі НКУС.

24. Лічыць неабходным утварэньне для заўсёднага і доўгатэрміновага крэдытаваньня мясцовай прамысловасьці фондаў з бюджэтных сродкаў, у разьмеры 3—5 мільёнаў рублёў. Устанаўленьне тэрміну і парадку ўтварэньня фондаў ускласьці на Савет Народных Камісараў.

25. Улічваючы вельмі важнае значэньне для БССР млынарнай справы, асабліва мукамольнай, даручыць Савету Народных Камісараў і акруговым выканаўчым камітэтам прыняць шэраг мер па рэгуляваньню і організацыі мукамольнае справы, згуртоўваючы рэгуляваньне ў веданьні Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю.

26. З прычыны таго, што нараўне з мясцовай дзяржаўнай прамысловасьцю павінна разьвівацца і саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць на аснове яе коопэраваньня, лічыць неабходнай усямерную дапамогу ў данай галіне з боку дзяржаўных і грамадзкіх організацый шляхам прадстаўленьня гэтай прамысловасьці крэдыту і ўтварэньня спрыяючых умоў для атрыманьня неабходнага сырцу і паўфабрыкатаў.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Час. вык. абав. Сэкратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

2-га ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці і саматужна-прамысловай коопэрацыі.

III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, заслухаўшы даклад аб становішчы і задачах саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці і саматужна-прамысловай коопэрацыі, пастанаўляе:

1. У пэрыяд шпаркага разгортваньня вытворчых сіл краіны, паляпшэньня дабрабыту рабоча-сялянскіх мас і павялічэньня іх попыту на продукцыю прамысловасьці—саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць прызвана папаўняць таварны рынак фабрыкатамі, дастаўляць для многіх галін прамысловасьці паўфабрыкаты і стварыць магчымасьць прыстасаваньня свае працы значным масам насяленьня, асабліва сельскага і местачковага, забясьпечыць якія работай дзяржаўная прамысловасьць, ня гледзячы на свой рост, усё-ж у бліжэйшыя гады ня будзе мець магчымасьці.

2. Сэсія лічыць, што ў інтарэсах народнае гаспадаркі краіны ў цэлым—разьвіцьцё саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці павінна ісьці пераважна па лініі скарыстаньня мясцовага сырцу і ў пагоджаньні з ходам разьвіцьця буйнай дзяржаўнай прамысловасьці. Адначасова з работай на заказчыка саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць павінна ўзяць курс галоўным чынам на масавую вытворчасьць.

У мэтах увязкі саматужнай прамысловасьці з агульна-гаспадарчым плянам, організацыі даставы і збыту саматужнай продукцыі, забясьпечаньне ў першую чаргу найбольш слабых экономічна груп саматужнікаў і падняцьце іх экономічнага і культурнага ўзроўню, разьвіцьцё саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці павінна быць накіравана па коопэрацыйнаму рэчышчу: па лініі вытворчасьці—у арцелі, па лініі даставы і збыту—у дастаўна-збытавыя таварыствы і па лініі крэдыту - у крэдытна-прамысловыя таварыствы, аб'яднаныя ў саюзы саматужна-прамысловай коопэрацыі. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на коопэраваньне сельскіх і местачковых саматужнікаў і рамесьнікаў.

4. Сэсія ўхваляе пастановы Савету Народных Камісараў і Экономічнай Нарады, накіраваныя к заахвочваньню і падтрыманьню са-

матужна-рамесьніцкай прамысловасьці і саматужна-прамысловай кооэрацыі і даручае Ураду ўтвараць ім у далейшым падтрыманьне шляхам уключэньня іх патрэбнасьцяй у агульна-гаспадарчыя пляны, пашырэньня крэдытаў і ўстанаўленьня магчымых ільгот для асобных галін, якія маюць асаблівае значэньне для народнае гаспадаркі. Адначасова Сэсія прапануе весьці ўсямерную барацьбу з ілжэкоопэратывамі, якія імкнуцца ў сваекарысных інтарэсах ўваходзячых у іх склад прыватных прадпрыемцаў скарыстаць прадстаўленыя коопэрацыі ільготы.

5. Сэсія лічыць неабходным палепшыць абслугоўваньне саматужнікаў (рамесьнікаў) у галіне асьветнай, лекавай і комунальнай і зрабіць гэта абслугоўваньне найбольш даступным для бяднейшай часткі іх, даручаючы разам з тым Ураду распрацаваць мерапрыемствы па ўзмацненьню палітыка-асьветнай работы сярод саматужнікаў (асабліва па паднячцьцю іх кваліфікацыі,) якую ўвязаць з агульнай работай мясцовых палітыка-асьветных і культурных організацый.

6. Сэсія зьвяртае ўвагу на неабходнасьць узмацненьня організацыйнай работы па ўсёй лініі саматужна-прамысловай коопэрацыі.

7. Сэсія прапануе Савету Народных Камісараў распрацаваць мерапрыемствы па ўпрошчаньню і палепшаньню форм крэдыту як па ўсёй лініі саматужна-прамысловай коопэрацыі, гэтак і для асобных саматужнікаў.

8. Сэсія лічыць неабходным уключыць ў дзяржаўны бюджэт пэўныя сумы на павялічэньне зваротных сродкаў і для аднаўленьня асноўных галін саматужна-рамесьніцкай прамысловасьці.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Чарвякоў.**

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб проэкце кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР, разглядзеўшы прадстаўлены Саветам Народных Камісараў проэкт Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы, адзначае свечасовасьць распрацоўкі проэкту гэтага Кодэксу і пастаноўкі яго на абгаварэньне Сэсіі.

У мэтах ўсебаковага абгаварэньня проэкту Кодэксу шырокімі масамі рабочых і сялян, да яго канчатковага зацьверджаньня, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт пастанаўляе:

Прадстаўлены Саветам Народных Камісараў проэкт разам з усімі матар'яламі Сэсіі па гэтаму пытаньню перадаць ў акругі для шырокага абгаварэньня яго працоўнымі масамі.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт даручае Прэзыдыуму забясьпечыць магчымасьць шырокага абгаварэньня проэкту працоўнымі Беларусі і ўнесьці проэкт кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы на зацьвярджаньне бліжэйшай Сэсіі з тым, каб ў гэтым проэкце кодэксу былі прыняты пад увагу ўсе водгукі і пажаданьні з месц.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Чэрвякоў.**

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

30 чэрвеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Па зацьверджаньню Палажэньня аб Гарадзкіх Саветах.

III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, заслухаўшы даклад аб новым „Палажэньні аб гарадзкіх саветах“, прынятым Прэзыдыумам ЦВК і Саветам Народных Камісараў БССР 3-га красавіка 1926 г., пастанаўляе зацьвердзіць гэта „Палажэньне“ з наступнымі дадаткамі і зьменамі:

1. Арт. 8 выкладзіць ў наступнай рэдакцыі: „выбары ў гарадзкія саветы ўтвараюцца ў адпаведнасьці з інструкцыяй „Аб утварэньні выбараў у саветы і на зьезды саветаў“, выдаваемай Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

2. Дапоўніць артыкул 13 ўвагай наступнага зьместу: „Прэзыдыум Менскага Гарадзкога Савету выбіраецца ў колькасьці 15 чалавек“.

3. Пункт „а“ артыкулу 18 выкладзіць так: „выдаюць абавязковыя пастановы на падставе адпаведных законаў і накладаюць за іх парушэньне адміністрацыйнае ўзысканьне“.

4. Артыкул 42 дапоўніць увагай: „у акруговых гарадох БССР пры гарадзкіх саветах сэкцыі Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі ўтвараюцца ў абавязковым парадку“.

5. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў у двухмесячны тэрмін адмяніць пастановы, якія супярэчаць прынятаму „Палажэньню аб гарадзкіх саветах“, а гэтак сама ў гэты-ж тэрмін распрацаваць, прыняць і апублікаваць неабходныя пастановы, якія выцякаюць з агульных асноў гэтага Палажэньня.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чэрвякоў.**

Час. вык. абав. Сэкратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб зацьверджаньні Справіцельна-Працоўнага Кодэксу.

III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, заслухаўшы даклад Народнага Камісара Унутраных Спраў, пастанаўляе:

1. Прадстаўлены Саветам-Народных Камісараў проэкт Справіцельна-Працоўнага Кодэксу зацьвердзіць.

2. Даручыць Прэзыдыуму ЦВК канчаткова адрэдагаваць, апублікаваць яго і вызначыць тэрмін ўвядзеньня ў жыцьцё.

3. Даручыць Ураду ўзгодніць з Справіцельна-Працоўным Кодэксам усе дзейнічаючыя ў сучасны момант дэкрэты, пастановы і інструкцыі, якія рэгулююць організацыю і дзейнасьць справіцельна-працоўных установ БССР, адмяніўшы тыя з іх, якія знаходзяцца ў супярэчнасьці з прынятым кодэксам.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
БССР **А. Чарвякоў**.

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі**.

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Па пытаньню аб асновах Водна-Мэліорацыйнага Кодексу.

Заслухаўшы даклад аб асновах Водна-Мэліорацыйнага Кодексу, III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Адзначыць своечасовасьць распрацоўкі і пастаноўкі на разгляд Сэсіі ЦВК асноў водна-мэліорацыйнага кодексу.

2. Прымаючы пад увагу вялікае значэньне гэтага закону ў правядзеньні з пасьпехам аграрнай політыкі і неабходнасьць да канчатковага яго зацьверджаньня, мець одзывы шырокіх мас працоўных, прадстаўлены проэкт перадаць на месцы для абгаварэньня яго і прапрацоўкі ў акругах, раёнах, сельскіх саветах і на сялянскіх сходах.

3. Пры канчатковай распрацоўцы Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу прыняць пад увагу ўсе матар'ялы Сэсіі ЦВК, матар'ялы і одзывы месц.

4. Даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў унесьці распрацованы, з прыняцьцем пад увагу ўсіх матар'ялаў, проэкт Мэліорацыйнага Кодэксу на адну з бліжэйшых Сэсій ЦВК для канчатковага яго зацьверджаньня.

Старшыня Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Час. вык. абав. Сэкратара Цэнтральнага
Выканаўчага Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі**.

2 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Аб зацьверджаньні законау, прынятых у пэрыяд між II і III Сэсіямі ЦВК БССР VII скліканьня.

III-я Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VII скліканьня пастанаўляе:

Зацьвердзіць ніжэй паданыя пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР, прынятыя ў пэрыяд між II і III Сэсіямі ЦВК VII скліканьня.

а) ПА ПАЛАЖЭНЬНЯХ АБ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАХ.

1. Пастанову ад 12 лютага 1926 г. аб рэорганізацыі Інбелкульту („Савецкая Беларусь“ ад 16 лютага 1926 г. № 37/1632).

2) Пастанову ад 8 мая 1926 г. аб злучэньні Народнага Камісарыяту па Ўнутранаму Гандлю і Ўправы Ўпаўнаважанага Народнага Камісарыяту па Замежнаму Гандлю—у Народны Камісарыят па Ўнутранаму і Замежнаму Гандлю. („Савецкая Беларусь“ ад 11 мая 1926 г. №104/1699).

б) ПА ПАСТАНОВЕ АБ ПРАКТЫЧНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ПРАВЯДЗЕНЬНЮ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПОЛІТЫКІ.

Пастанову ад 27 сакавіка 1926 г. аб дапаўненьні арт. 9 пастановы II-й Сэсіі ЦВК БССР VI скліканьня аб практычных мерапрыемствах па правядзеньню нацыянальнай політыкі. („Савецкая Беларусь“ ад 3 сакавіка 1926 г. № 75/1670).

в) ПА КРЫМІНАЛЬНАМУ КОДЭКСУ.

Пастанову ад 26 чэрвеня 1926 г. аб зьмене арт. 97 Крымінальнага Кодэксу.

г) ПА КРЫМІНАЛЬНА-ПРОЦЭСУАЛЬНАМУ КОДЭКСУ.

Пастанову ад 12 чэрвеня 1926 г. аб зьмене арт. арт. 428 і 429 Крымінальна-Процэсульнага Кодэксу.

д) ПА ГРАМАДЗЯНСКАМУ КОДЭКСУ.

1. Пастанову ад 5 лютага 1926 г. аб дапаўненьні арт. 265 Грамадзянскага Кодэксу ўвагаю. (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 6, арт. 22)

2. Пастанову ад 5 лютага 1926 г. аб зьмене арт. 76 Грамадзянскага Кодэксу і дапаўненьні яго арт. 76а. (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 6, арт. 23).

3. Пастанову ад 5 сакавіка 1926 г. аб зьмене ўвагі да арт. 210 Грамадзянскага Кодэксу і дапаўненьні гэтага артыкулу другою ўвагаю. (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 12, арт. 44).

4. Пастанову ад 26 чэрвеня 1926 г. аб зьмене арт. арт. 138, 416, 417, 419, 420, 421 і 422 Грамадзянскага Кодэксу.

5. Пастанову ад 26 чэрвеня 1926 г. аб зьмене артыкулу 156 Грамадзянскага Кодэксу.

е) ПА ГРАМАДЗЯНСКА-ПРОЦЭСУАЛЬНАМУ КОДЭКСУ.

1. Пастанову ад 5 лютага 1926 г. аб зьмене арт. 187б Грамадзянска-Процэсуальнага Кодэксу. (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 6, арт. 24).

2. Пастанову ад 22 мая 1926 г. аб зьмене арт. арт. 226—230 Грамадзянска-Процэсуальнага Кодэксу. (Зб. Зак. БССР 1926 г. № 21, арт. 78).

ж) ПА ПАЛАЖЭНЬНЮ АБ СУДАБУДАЎНІЦТВЕ.

Пастанову ад 18 сьнежня 1925 году аб зьмене тэрміну складаньня сьпісаў народных заседацеляў для акруговых і народных судоў на 1926 г. (Зб. Зак. 1925 г. № 46, арт. 364).

з) ПА ЛЯСНОМУ КОДЭКСУ.

Пастанову ад 20 лістапада 1925 г. аб зьмене арт. 51 Лясного Кодэксу. (Зб. Зак. 1925 г. № 41, арт. 347).

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтр. Вык. Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі.**

2-га ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова III Сэсіі Цэнтральнага Выканаучага Камітэту БССР VII скліканьня.

III Сэсія Цэнтр. Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. Павялічыць склад членаў Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту з 11 да 13 і ўвесьці ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. М. М. Галадзеда і А Я. Сташэўскага.

2. Замест выбыўшых з складу Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. В. П. Грузэля, А. І. Хацкевіча, Я. А. Левіна перавесьці з кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. С. Л. Гэльтмана, С. В. Яцкевіча і І. П. Ашэровіча.

3. Павялічыць лік кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту з 5 да 6. З прычыны пераводу з кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. В. П. Грузэля, А. І. Хацкевіча і Я. А. Левіна і выбыцьця са складу кандыдатаў т. В. Х. Шаранговіча ўвесьці ў склад кандыдатаў у члены Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. т. М. П Гнілякевіча, М. А. Сэгаля, А. Р. Бэйліна, І. Я. Масальскага і А. В. Вароўка.

4. Зацьвердзіць зьмены ў складзе Савету Народных Камісараў:

а) аслабаненьне ад абавязкаў Народнага Камісара Фінансаў тав. Ф. А. Браўковіча і назначэньне Народным Камісарам Фінансаў тав. І. А Васілевіча;

б) аслабаненьне ад абавязкаў Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі т. В. П. Грузэля і назначэньне Народным Камісарам Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі тав. В. А. Радус-Зяньковіча;

в) аслабаненьне ад абавязкаў Народнага Камісара Асьветы тав. У. М. Ігнатоўскага і назначэньне Народным Камісарам Асьветы тав. А. В. Баліцкага;

г) аслабаненьне ад абавязкаў Народнага Камісара Ўнутраных Спраў тав. А. І. Хацкевіча і назначэньне Народным Камісарам Унутраных Спраў тав. А. Я. Сташэўскага;

д) аслабаненьне ад абавязкаў Народнага Камісара Ўнутранага Гандлю І. А. Васілевіча;

е) назначэньне Народным Камісарам Унутранага і Замежнага Гандлю тав. Я. А. Адамайціса.

5. Выбраць Старшынёй Бюджэтнай Камісіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту тав. В. А. Радус-Зяньковіча.

6. Зацьвердзіць Старшынёй Інстытуту Беларускай Культуры тав. У. М. Ігнатоўскага.

7. Зацьвердзіць аслабаненьне ад абавязкаў Сталага Прадстаўніка Ўраду БССР пры Ўрадзе Саюзу ССР тав. А. І. Паўлюкевіча і назначэньне Сталым Прадстаўніком Ураду БССР пры Ўрадзе Саюзу ССР тав. А. І. Хацкевіча.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў**.

Час. вык. аб. Сэкратара Цэнтр. Вык. Камітэту БССР **У. Ігнатоўскі**.

2-га ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Цэнтральнага Выканаучага Камітэту і Савету Народных Камісарау БССР

### АБ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМ ПАДАТКУ НА 1926-27 ГОД.

Практыка падліку аб'ектаў абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам паказала, што ў многіх выпадках уключэньне ў абкладаемы даход усёй сумы неземляробчых заработкаў сялянскае гаспадаркі цягне за сабою значнае павышэньне разьмераў сельска-гаспадарчага падатку і пераабкладаньне гэтых заработкаў у параўнаньні з абкладаньнем іх прамысловым і падаходным падаткамі. Між тым атрыманьне неземляробчага заработку звычайна зьвязана з тратамі, якія амаль што не падпадаюць падліку. З прычыны гэтага Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Беларускае ССР, на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 29 чэрвеня 1926 г., дзеля выпаўненьня рашэньняў па сельска-гаспадарчым падатку III-е Сэсіі ЦВК БССР і дзеля зьмены пастановы сваёй за 20 мая 1926 г., пастанаўляюць:

1. Ва ўсіх мясцовасьцях БССР даходы ад заработнае платы рабочых і служачых, знаходзячыхся на сталай або часовай рабоце і лічачыхся ў пасялённых сьпісках, прыцягваюцца да абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам толькі ў той частцы, якая фактычна паступае ў гаспадарку, але ня больш 10 проц. усей сумы заработнае платы той асобы, якая жыве па-за гаспадаркаю і 15 проц. заработнае платы той асобы, якая жыве на гаспадарцы. У такім жа самым разьмеры трэба прыцягаць да абкладаньня і даходы ад адходных промыслаў і сэзонных работ.

2. Даходы сельскага насяленьня ад саматужных промыслаў прыцягаць да абкладаньня адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у такім разьмеры, каб сума падатку, што падае на даходы ад саматужных промыслаў, не перавышала суму падатку, які бярэцца з тых самых саматужных промыслаў у тых выпадках, калі яны абкладаюцца падаходным і прамысловым падаткамі.

3. Дзеля таго, каб забясьпечыць паступленьне сельска-гаспадарчага падатку поўнасьцю і каб пазбавіцца мажлівасьці недапаступленьня яго пры захаваньні ўстаноўленых раней норм даходнасьці—устанавіць на зьмену п. п. 2 і 4 пастановы ЦВК і СНК БССР за 20 мая г. г. наступныя нормы даходнасьці галін сельскае гаспадаркі па акругах:

| АКРУГІ. | Нормы абкладанага даходу (у рублех). | | | | | Орыентыровачныя нормы абкладанага даходу. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 дзес. пашні. | 1 дзес. поплаву. | 1 дз. сенажаці. | 1 гал. буйн. жывелы стар. за 2 г. | 1 конь або 2 валы ст. за 3 г. | На 1 сьвіньню ад 8 мес. | На 1 дз. прам. саду. | На 1 дз. прам. агароду. | На 1 рам. вулей. | На 1 калод. вулей. |
| Бабруйская - | 32 | 27 | 18 | 17 | 19 | 7 | 110 | 150 | 5 | 2 |
| Барысаўская - | 28 | 25 | 16 | 16 | 17 | 6 | 90 | 150 | 5 | 2 |
| Віцебская - | 32 | 26 | 14 | 19 | 22 | 8 | 110 | 150 | 5 | 2 |
| Калінінская - | 29 | 27 | 17 | 18 | 21 | 6 | 90 | 150 | 5 | 2 |
| Менская - - | 34 | 25 | 19 | 20 | 22 | 8 | 110 | 150 | 5 | 2 |
| Магілёўская - | 33 | 31 | 19 | 18 | 19 | 7 | 110 | 150 | 5 | 2 |
| Мазырская - | 23 | 26 | 18 | 16 | 18 | 6 | 90 | 150 | 5 | 2 |
| Аршанская - | 33 | 31 | 15 | 18 | 21 | 7 | 90 | 150 | 5 | 2 |
| Полацкая - | 28 | 23 | 15 | 16 | 18 | 7 | 90 | 150 | 5 | 2 |
| Слуцкая - - | 35 | 23 | 16 | 19 | 21 | 8 | 110 | 150 | 5 | 2 |

4. Даручыць акруговым выканаўчым камітэтам не пазьней 20 ліпеня 1926 году ўнесьці і апублікаваць адпаведныя зьмены ў нормах абкладанага даходу для райёнаў і паселішчаў.

5. Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў даручаецца выдаць інструкцыю і правілы на зьмену адпаведных артыкулаў выданых раней інструкцый і на разьвіцьцё гэтае пастановы.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоу.**

Нам. Старшыні Савету Народных
Камісараў БССР **М. Карклін.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

10 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Інструкцыя Савету Народных Камісарау БССР

### АБ ПАРАДКУ УЖЫВАНЬНЯ АРТ. 17 ПАЛАЖЭНЬНЯ АБ СПАГНАНЬНІ ПАДАТКАУ.

Пры ўжываньні арт. 17 Палажэньня аб спагнаньні падаткаў (З. З. СССР 1925 г. № 70, арт. 518) належыць кіравацца наступнымі правіламі:

I. Устанаўленьне разьмеру сум, патрэбных для задавальненьня заработнай платай рабочых і служачых за мінулы час і за два тыдні ўперад, а таксама для ўплаты ўзносаў на соцыяльнае страхаваньне і алімэнтаў за той самы час (п. „а“ арт. 17 Палажэньня), ляжыць на абавязку службовых асоб, якія робяць спагнаньне, для чаго яны павінны правяраць заявы нядоімшчыкаў праглядам бухгальтарскіх кніг і атрыманьнем зьвестак і даведак ад судовых органаў, органаў Народнага Камісарыяту Працы (кас соцыяльнага страхаваньня і іншых) і адміністрацыйных устаноў.

2. Пры вызначэньні, якая іменна дзяржаўная маемасьць, што знаходзіцца ў веданьні нядоімшчыка, не належыць да продажу і закладу (п. „г“ арт. 17 Палажэньня), трэба кіравацца артыкуламі 19-24 Грамадзянскага Кодэксу і артыкулам 23 Палажэньня аб спагнаньні падаткаў.

3. Пры спагнаньні нядоімак з саматужнікаў, якія карыстаюцца падатковымі ільготамі паводле пастаноў ЦВК і СНК СССР за 10 красавіка, 12 мая і 12 чэрвеня 1925 г. (З. З. СССР 1925 г. №№ 25, 32 і 38, арт. арт. 168, 212, 213, 285), а таксама з нядоімшчыкаў, якім прылады вырабу, інструмэнты, падсобкі і кнігі патрэбны для асабістых профэсіянальных заняткаў (п. „ж“ арт. 17 Палажэньня), пакідаецца ня менш аднаго комплекту памянёных прыладаў, інструмэнтаў, падсобкаў і кніг.

4. Норма зімняга і летняга адзеньня, бялізны, абутку і іншых прадметаў дамовага ўжытку (п. „з“ арт. 17 Палажэньня), якімі карыстаецца нядоімшчык і яго ўтрыманцы і на якія ня можа быць зьвернута спагнаньне, устанаўляецца на адну асобу:

а) па аднаму зімняму і летняму пальто і кажуху;
б) па аднаму зімняму і летняму касьцюму;
в) па тры зьмены нацельнае бялізны;
г) па аднэй пары абутку;
д) па аднаму ложку;
е) па аднэй падушцы;
ж) па аднэй зімняй і летняй коўдры;
з) па дзьве зьмены прасьцірадлаў і навалачак;
і) па аднаму крэслу;
к) па аднаму комплекту талерак, відэльцаў, нажоў і лыжак.

Апрача гэтага, на сям'ю пакідаецца адзін абедзенны стол, кухонная пасуда, якая знаходзіцца ў карыстаньні, дзіцячае адзеньне, дзіцячая бялізна, іншыя дзіцячыя прыналежнасьці і цацкі.

5. Запас апалу, на які ня можа быць зьвернута спагнаньне, вызначаецца для нядоімшчыкаў па ўсіх падатках, у тым ліку і сельска-гаспадарчаму, у разьмеры патрэбы на адзін месяц.

Запас харчоў для нядоімшчыкаў, членаў іх сям'і, утрыманцаў— у разьмеры шасьцімесячнай патрэбы (але ня далей, як да новага ўраджаю) пры нядоімцы па сельска-гаспадарчаму падатку і месячнай патрэбы пры нядоімцы па іншых падатках.

6. Разьмеры непарушных нормаў апалу, корму і насеньня, памянёных у пунктах „і“, „к“, „л“, „м“, „п“ артыкулу 17 Палажэньня аб спагнаньні падаткаў, устанаўляюцца пастановамі належных акруговых выканаўчых камітэтаў у адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі.

Нам. Старшыні Савету Народных
Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных
Камісараў БССР **М. Мароз.**

1 ліпеня 1926 году.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### АБ ПРЫЦЯГНЕНЬНІ СЯЛЯНСТВА І МЯСЦОВЫХ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ДА ЎДЗЕЛУ У СПРАВЕ ДЗЯРЖАЎНАГА СЕЛЬСКАГА АКЛАДНОГА СТРАХАВАНЬНЯ.

Каб прыцягнуць сялянства і мясцовыя савецкія органы да ўдзелу ў справе дзяржаўнага сельскага акладнога страхаваньня на аснове пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 19 студзеня 1926 году „Аб перайначаньні пастановы СНК СССР за 11/XI-24 г. аб дзяржаўным страхаваньні ў сельскіх мясцовасьцях (З. З. СССР 1926 г. № 6, арт. 41) Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Дзеля ўстанаўленьня шчыльнейшай сувязі органаў дзяржаўнага страхаваньня з шырокімі сялянскімі масамі, агульны сход грамадзян кожнага паселішча выбірае страхавога ўпаўнаважанага.

2. Страхавы ўпаўнаважаны ўдзельнічае: а) у рэгістрацыі і ацэнцы страхуемай маемасьці; б) у разьмеркаваньні сельскімі саветамі ільгот паміж асобнымі страхавацелямі, а таксама ў вызначэньні разьмеру страхавых страт па ўсіх відах сельскага акладнога і дадатковага да яго дабраахвотнага страхаваньня і ліквідацыі іх.

3. Страхавы ўпаўнаважаны мае права знаёміцца з дакумэнтамі агэнцтва дзяржаўнага страхаваньня па рэгістрацыі і ацэнцы маемасьці для праверкі правільнасьці разрахунку па налічэньні акладу, правільнасьці разрахунку па вылічэньні страхавое выплаты і іншых разрахункаў, а таксама з дакумэнтамі па іншых цікавячых яго страхавых пытаньнях.

4. У сельскіх саветах на аднаго з членаў па выбару сельскага савету ўскладаецца абавязакназіраньня, кіраваньня і ўзгадненьня работы страхавых упаўнаважаных. Вызначаны член сельскага савету карыстаецца правамі страхавога ўпаўнаважанага, паводле §§ 2 і 3 гэтае пастановы, і ў сваей рабоце інструктуецца раёнfamным страхавым агэнтам.

5. Пры зьдзяйсьненьні сваіх праў страхавы ўпаўнаважаны не павінен ўмешвацца ў опэрацыйную працу страхавых агэнтаў і зборшчыкаў страхоўкі. Аб заўважаных непарадках у справе страхаваньня страхавы ўпаўнаважаны даводзіць да ведама сельскага савету і страхавога агэнта, а аб няправільных дзеяньнях страхавых агэнтаў паведамляе належныя органы дзяржаўнага страхаваньня.

6. Пры кожным раёнfamным выканаўчым камітэце утвараецца пад старшынством старшыні альбо члена гэтага камітэту нарада па страхавых пытаньнях у складзе: раёнfamнага страхавога агэнта, членаў сельскага савету, зазначаных у арт. 4, загадчыка раёнfamнае часьці комунальнае гаспадаркі, начальніка мясцовай пажарнай дружыны, старшыні раёнfamнага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, вэтэрынарнага доктара (фэльчара), агронома. Усе страхавыя ўпаўнаважаныя могуць прысутнічаць на пасяджэньнях нарады з правам пастаноўчага голасу.

7. На азначаныя ў арт. 6 нарады ўскладаецца:

а) унясеньне праз раёнfamныя выканаўчыя камітэты на разгледжаньне Страхавога Савету пры Народным Камісарыяце Грашовых Спраў БССР проэктаў па пытаньнях дзяржаўнага акладнога сельскага страхаваньня, а таксама разгледжаньне пытаньняў па зьдзяйсьненьні мер барацьбы і папярэджаньня выпадку, якія прадугледжваюцца страхаваньнем;

б) разьмеркаваньне паміж уваходзячымі ў склад раёну сельскімі саветамі ільгот, якія даюцца насельнасьці паводле пляну абавязковага акладнога страхаваньня;

в) дапамога разьвіцьцю дабраахвотных пажарных організацый і ўтварэньне коопэрацыйных таварыстваў па агнятрываламу будаўніцтву;

г) заслухоўваньне і абгаварэньне інформацыйных справаздач і дакладаў мясцовага страхавога агэнта.

8. Народнаму Камісарыяту Грашовых Спраў і Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў даручаецца ў месячны тэрмін выдаць інструкцыю для ўжываньня гэтае пастановы.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР
**М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР
**М. Мароз.**

21 чэрвеня 1926 г.
г. Менск.

## Пастанова Савету Народных Камісарау БССР

### АБ АБВЯШЧЭНЬНІ ДЗЯРЖАУНАЮ УЛАСНАСЬЦЮ ПОМНІКАУ СТАРАЖЫТНАСЬЦІ, МАСТАЦТВА, БЫТУ І ПРЫРОДЫ.

Савет Народных Камісараў Беларускае ССР пастанаўляе: обвясьціць дзяржаўнаю ўласнасьцю наступныя помнікі мастацтва, старажытнасьці, быту і прыроды.

Дадатак.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

1 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

## Сьпіс

### Помнікау, якія абвяшчаюцца дзяржаунаю маемасьцю БССР.

| №№ па парадку. | Назва помнікаў. | Дзе знаходзіцца. |
|---|---|---|
| | МЕНСКАЯ АКРУГА. | |
| 1. | Дом 1-га З'езду Рас. Соц. Дэм. Рабочай Партыі . . . . . . . . . . . . . | Савецкая вул., 135, г. Менск. |
| 2. | Кацярынінская царква . . . . . . | Ракаўская вул. „ |
| 3. | Марынскі Катэдральны касьцёл . . | Пляц волі. „ |
| 4. | Б. Дамініканскі касьцёл . . . . . . | Рог вул. Энгельса і Кастрычнікавай, г. Менск. |
| 5. | Дом гарадзкога суду . . . . . . | На Замчышчы, каля Сьвіслачы, г. Менск. |
| 6. | Б. Царква мужчынскага кляштару . . | Вуліца Бакуніна, б. Манастырскі перав., г. Менск. |
| 7. | Будынак архіву . . . . . . . . . | Там-жа на процілеглай старане вул., г. Менск. |
| 8. | Так званы дом „Пятра Вялікага“ . . . | Комуністычная, 19, ва двары „Дом Рабпроса“, г. Менск. |
| 9. | Дом іезуіцкае школы і іезуітаў . . . | Пляц волі, дзе Саўнарком, г. Менск. |
| 10. | Замкавая гара на Нямізе . . . . . | г. Менск. |
| 11. | Ражэственская царква . . . . . . | м. Заслаў. |

| | |
|---|---|
| 12. Прэабражэнская царква. . . . . | (Замкавая)—Заслаў. |
| 13. Заслаўскае замчышча . . . . . | м. Заслаў. |
| 14. Ігнаціцкі парк, і дэндролёгічная школа арборэтум. . . . . . . . | Каля Менску, Самахвалавіцк. районy. |
| 15. Рованіцкі сад. . . . . . . . | Рованіцкая Слабада, Менскае акругі. |
| 16. Шыпянскі сад . . . . . . . . | Ст. Вітгенштэйнск., Менскае акругі. |
| 17. Сад і запаведнік Камароўскага балота | Дасьледчая Балотн. Станцыя (Камароўскае балота). |
| 18. Таўкачэвіцкі сад. . . . , . . . | Ст. Рудзенск, Шацкага районy. |

## СЛУЦКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 19. Ражэственская царква . . . . | Слуцак. |
| 20. Званіца Ражэственскае царквы . | „ |
| 21. Міхайлаўская царква на „Выспе“. | „ |
| 22. Стэфанская царква . . . . . . | „ |
| 23. Барбарынская царква на могілках. | „ |
| 24. Званіца на могілках . . . . . . | „ |
| 25. Васкрасенская царква . . . . . | „ |
| 26. Званіца Юраўскае царквы . . . . | „ |
| 27. Званіца, цяпер ня існуючае царквы, на варотах Земаддзелу . . . . . | „ |
| 28. Кальвінскі сабор . . . . . . . | „ |
| 29. Царква Трайчанскага кляштару . | „ |
| 30. Сынагога (каменная) . . . . . . | „ |

## ПОЛАЦКАЯ АКРУГА..

| | |
|---|---|
| 31. Сафійскі сабор . . . . . . . . | Полацак. |
| 32. Саборная царква Спаскага кляштару | „ |
| 33. Замкавая гара пры вытоцы Полаты ў Дзьвіну.. . . . . . . . . . . | „ |
| 34. Цытадзельны вал . . . . . . . | „ |
| 35. Руіны Барысаглебскага кляштару (Барысаглебская і Пятніцкая царквы) | |
| 36. Мікольскі сабор . . . . . . . | „ |
| 37. Царква . . . . . . . . . . . . . | м. Струля каля Полацку. |

## АРШАНСКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 38. Горы-Горацкі Акадэмічны Сад (дэндролёгічны парк і ботансад) . | Беларуская Дзярж. Сельска-Гаспадарч. Акадэмія. |
| 39. Межаўскі сад . . . . . . . . | Саўхоз Межава, каля ст. Стайкі. |
| 40. Смалянскі сад . . . . . . . . | м-ка Смаляны. |
| 41. Фоміна-Арловіцкі сад . . . . . | Каля сяла Фоміна-Арловічы. |
| 42. Дом Пятра I . . . . . . . . | Копысь. |

## МАГІЛЁЎСКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 43. Гарадзкая Ратуша . . . . . . | Магілёў |
| 44. Гарадзкія брамы . . . . . . | „ |
| 45. Сабор сьв. Осіпа . . . . . . | „ |
| 46. Богаяўленскі манастыр . . . . . | „ |
| 47. Спасаўская царква . . . . . . | „ |
| 48. Сынагога драўляная на бер. Дняпра | „ |
| 49. Гарадзкая Ратуша . . . . . . | Шклоў. |
| 50. Сынагога каменная . . . . . . | „ |
| 51. Замак Сапегі . . . . . . . . | Стары-Быхаў. |

## КАЛІНІНСКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 52. Ільлінская царква . . . . . . . | Крычаў. |
| 53. Юраўская царква . . . . . . . | „ |
| 54. Касьцел . . . . . . . . . . | „ |
| 55. Мікольская царква . . . . . . | „ |
| 56. Спасаўская царква . . . . . . . | „ |
| 57. Усьпенская царква . . . . . . | „ |
| 58. Палац Галынскіх . . . . . . | „ |
| 59. Драўляная царква Гунічэўскага кляштару . . . . . . . . . . | Мсьціслаў. |
| 60. Касьцёл . . . . . . . . . | „ |
| 61. Мікольскі сабор . . . . . . . | „ |
| 62. Драўляная сынагога . . . . . | „ |

## БАБРУЙСКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 63. Крынкавіцка-Дараганаўскі сад . . | Крынкі. |
| 64. Красна-Беражскі сад . . . . . . | сяло Красны Бераг. |

## ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА.

| | |
|---|---|
| 65. Усьпенскі сабор . . . . . . . | Віцебск. |
| 66. Драўляная царква Маркава кляшт. | Каля Віцебску. |
| 67. Благавешчанская царква . . . . | „ |
| 68. Троіцкая царква (гэт. зв. „Чорная . Тройца“ на Пескавацікy). . . . . | „ |
| 69. Рынкава-Васкрасенская царква . . | „ |
| 70. Васкрасенска-Заручаўск. царква . . | „ |
| 71. Ікона „Мікола“ (помная фігура) . | „ |
| 72. Ікона „Мікола“ (помны вобраз) . . | „ |
| 73. Ікона „Арх. Міхаіл“ (помная фігура) | „ |
| 74. Ікона „Арх. Міхаіл„ (помны вобраз) | „ |
| 75. Ікона „Нараджэньне . . . . . . | „ |
| 76. Ікона „Вялікі Архірэй“ . . . . . | „ |
| 77. Бешанковіцкі сад . . . . . . . | м. Бешанковічы. |
| 78. Бачэйкаўскі сад . . . . . . . | м. Бачэйкава. |
| 79. Будавецкі сад (Арборэтум) . . . | Каля быўш. двара Будавесьць. |
| 80. Віцебскі Ботанічны сад . . . . . | г. Віцебск. |
| 81. Віцебскі сад пры Партшколе імя Энгельса. . . . . . . . . . . | г. Віцебск. |
| 82. Велікалетчанскі ботанічны сад . . | Станцыя Княжыца. |
| 83. Вучэбна-паказальны ботанічны сад. | г. Віцебск, Вараб‘ўё-ская вул. |
| 84. Іванскі сад . . . . . . . . . | Саўхоз Іванск, каля м. Чашнікі. |
| 85. Красавіцкі хутар . . . . . . . | Каля Бешанковіч. |
| 86. Б. Лескавіцкі сад . . . . . . | С. Лескавічы, каля ст. Сіроціна. |
| 87. Нізгалоўскі сад. . . . . . . . | Каля Бачэйкава. |

БАРЫСАЎСКАЯ АКРУГА.

88. Фатыніцкі сад . . . . . . . . . . Фатынь, каля м. Бачэйкава.

89. Зембінскі сад . . . . . . . . . . м. Зембін, пры школе 7-х годцы.

90. Забашавіцкі сад . . . . . . . . . в. Забашавічы.

91. Казіміраўскі сад . . . . . . . . . Казімірава, Земб. р.

92. Бобраўскі сад . . . . . . . . . м. Бобр.

93. Барысаўскія батарэі (французкія) . . г. Барысаў.

94. Карсакавіцкія насыпы . . . . . . . Каля в. Карсакавічы, Зембінск. раёну.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

---

## Пастанова Савету Народных Камісарау БССР

АБ ПАРАДКУ АХОВЫ ПОМНІКАУ СТАРАЖЫТНАСЬЦІ, МАСТАЦТВА, БЫТУ І ПРЫРОДЫ, АБВЕШЧАНЫХ ДЗЯРЖАУНЫМ СКАРБАМ.

Дзеля ахувы помнікаў старажытнасьці, мастацтва, быту і прыроды, абвешчаных дзяржаўным скарбам, Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Помнікі будаўніцтва (будовы грамадзянскія, крэпасныя, рэлігійнага культу і інш.), абвешчаныя дзяржаўнаю ўласнасьцю БССР, без дазволу Камісіі па ахове помнікаў мастацтва, старажытнасьці, быту і прыроды пры Інстытуце Беларускае Культуры, не павінны падлягаць зломцы, пераробцы, рамонту, рэстаўрацыйным работам (аднаўленьне ранейшага віду помнікаў або яго часьцей).

2. Помнікі археолёгіі (старадаўнія курганы, гарадзішчы, надмагільныя будовы і г. д.) не павінны выкарыстоўвацца ў якасьці будаўнічага матар'ялу і ня могуць разворвацца і раскопвацца дзеля якіх-небудзь гаспадарчых мэтаў. Навакола помніка павінна пакідацца непарушнаю абаронная паласа, шырынёю ад аднаго сажня і болей, у залежнасьці ад разьмеру і значэньня помніка.

3. У парках і садох, абвешчаных дзяржаўнаю ўласнасьцю, не дапушчаецца без дазволу Камісіі па ахове помнікаў старажытнасьці, быту і прыроды пры Інбелкульце вядзеньне рэстаўрацыйных работ, а таксама якіх-бы то ні было дзеяў, якія выяўляюцца ў рамонце садова-паркавых будоў, рубцы, прачыстцы, падсадцы дрэваў і расьлін, у будаўнічых, мэліорацыйных, абсушыцельных, абвадніцельных работ і іншых, якія могуць парушыць або зьмяніць садова-паркавыя будовы, пляны, гісторыка-мастацкія пэйзажы, ансамблі садоў і паркаў, а таксама формы паасобных дрэваў. Без дазволу памянёнае вышэй Камісіі не дапушчаецца гаспадарчае выкарыстаньне паказаных паркаў і садоў.

4. Забараняецца без дазволу Народнага Камісарыяту Асьветы, узгодненага з Інстытутам Беларускае Культуры, вываз і продаж паасобных помнікаў мастацтва, старажытнасьці і народнага быту за граніцу.

5. На акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадзкія і сельскія саветы ўскладаецца абавязак прымаць рэчаістыя меры дааховы помнікаў паказаных у арт. 1—4 гэтае пастановы і сачыць за выкананьнем гэтае пастановы.

6. У выпадку значнага папсаваньня і разбурэньня помнікаў, паказаных у арт. 1—4 гэтае пастановы, якія зрабіліся як ад стыхійных з‘явішч, гэтак і ад незаконных і няправільных дзей службовых і прыватных асоб (няпрыняцьце належных мер аховы, няправільнае скарыстаньне, разбурэньне помнікаў і г. д.) памянёныя ў артыкуле 5 органы прымаюць патрэбныя меры для папярэджаньня далейшага папсаваньня і разбурэньня помнікаў і адначасна паведамляюць аб здарэньні і аб прынятых мерах Камісіі па ахове помнікаў старажытнасьці, быту і прыроды пры Інстытуце Беларускае Культуры.

7. Выканаўчыя камітэты абавязваюцца дапамагаць выясьненьню існаваньня помнікаў мастацтва, старажытнасьці, быту і прыроды, якія па свайму мастацкаму, гістарычнаму і бытавому значэньню могуць быць прызнаны падлягаючымі дзяржаўнай ахове.

8. Распараджэньні па ахове помнікаў мастацтва, старажытнасьці, быту і прыроды выдаюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

9. Выдаткі на ўтрыманьне помнікаў, паказаных ў арт. арт. 1—4, робяцца па каштарысу акруговых выканаўчых камітэтаў.

10. Той, хто парушае гэтую пастанову, прыцягаецца да адказнасьці паводле арт. арт. 99, 102 і 107 Крым. Код.

11. З выданьнем гэтае пастановы траціць сілу пастанова СНК БССР за 24-XII 1923 г. „о регистрации, приеме на учет и о хранении памятников искусства, старины, быта и местностей природы, находящихся во владении учреждений и обществ, а также частных лиц“ (С. У. БССР за 1924 г. № 1, ст. 5).

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

1 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### АБ ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ.

Заслухаўшы даклад Старшыні Інстытуту Беларускае Культуры тав. Ігнатоўскага У. М. аб дзейнасьці Інстытуту за мінулы час, Савет Народных Камісараў пастанаўляе:

1. Прызнаць, што з моманту сваёй рэорганізацыі Інстытут Беларускае Культуры з пасьпехам выконвае ўскладзеную на яго задачу па ўдасканаленьні навуковае і культурнае працы на Беларусі,

па дасьледаваньні і вывучэньні экономічных, прыродных і соцыяльна-гістарычных каштоўнасьцяй беларускага народу і ўсіх нацыянальных меншасьцяй, населяючых Беларусь. У выніку гэтае працы аднязначаецца ўзмацненьне ўплываў Інстытуту Беларускае Культуры на ўсю навуковую і дасьледчую дзейнасьць у Рэспубліцы.

2. У зьвязку з агульна-дзяржаўным ўздымам Беларусі і буйным разьвіцьцём яе экономічнага і культурнага будаўніцтва, лічыць неабходным з 1926-27 акадэмічнага году надаць Інстытуту Беларускай Культуры напрамак да паступовага ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук, не пакідаючы пры гэтым прынцыпу сувязі яго праз Нацыянальныя аддзелы, Сэкцыі, Навуковыя Таварыствы і Бюро Краязнаўства з шырокімі працоўнымі масамі. Адначасна лічыць патрэбным, каб Інстытут Беларускае Культуры і надалей яднаў наўкола сябе лепшыя навуковыя сілы і ўзмацняў існуючую сувязь з адпаведнымі дзяржаўнымі і грамадзкімі ўстановамі.

3. У мэтах больш поўнага вывучэньня паасобных нацыянальных культур на Беларусі, прыступіць да організацыі пры Інстытуце Беларускае Культуры, побач з яўрэйскім і польскім аддзеламі, —аддзелу латышскага.

4. У сувязі з паглыбленьнем дзейнасьці Інстытуту Беларускае Культуры, павялічэньнем яго значэньня, як Усебеларускае Навуковае Дасьледчае Інстытуцыі, у мэтах абмену ведамі і дасягненьнямі, лічыць неабходнай сьціслую сувязь яго з Акадэмічнымі ўстановамі паасобных Саюзных Рэспублік і лічыць пажаданым навуковае супрацоўніцтва яго з Акадэмічнымі Інстытуцыямі замежных дзяржаў.

5. Для забясьпечаньня навукова-дасьледчай працы Інстытуту Беларускае Культуры, асабліва ў галіне вывучэньня прыроды і матар'яльнай культуры Беларусі, лічыць неабходным організаваць „Музэй Прыроды“ усебеларускага значэньня.

6. Для бесперабойнага выконваньня навукова-выдавецкага пляну Інстытуту Беларускае Культуры,—даручыць яму распрацаваць пытаньне аб заснаваньні ўласнай друкарні акадэмічнага тыпу.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў БССР **М. Мароз.**

10 ліпеня 1926 г.
г. Менск.

---

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ЛІКВІДАЦЫІ САДОЎ І САДОВА-ГАРОДНЫХ ГАСПАДАРАК ДЗЯРЖМАЕМАСЬЦЯЙ, У ЯКІХ ПЛОШЧА НЕ ПЕРАВЫШАЕ ДВУХ ДЗЕСЯЦІН.

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

У складзе дзяржмаемасьцяй да апошняга часу знаходзіцца вельмі многа дробных быўшых непрацоўных садоў і садова-гародных гаспадарак, у якіх плошча пад садовымі насаджэньнямі не перавышае двух дзесяцін. Эксплёатацыя іх зямельнымі органамі або Райвыканкомамі пры дапамозе здачы ў арэнду выпадковым асобам зьяўляецца зусім не мэтазгоднай, бо арганізаваць у іх паасобныя садовыя гаспадаркі з належным доглядам за дрэвамі, з-за нязначнасьці

плошчы, зусім немагчыма. Гэтыя сады пры такім выкарыстаньні, што далей, то ўсё болей і болей занепадаюць і, нарэшце, павінны будуць зусім пагібнуць. Дзякуючы гэтаму Народны Камісарыят Земляробства прапануе падобныя сады і садова-гародныя гаспадаркі перадаць для непасрэднага выкарыстаньня школам, сялянскім Камітэтам Грамадзкай Узаемадапамогі і паасобным працоўным землякарыстацелям, кіруючыся ніжэйнаступным:

1) Сады, непасрэдна прылягаючыя да школьных сядзібаў або зямельных вучасткаў, павінны быць передадзены школам у рахунак належачай ім зямельнай нормы, паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Асьветы БССР аб парадку надзяленьня вучэбных установаў зямельнымі вучасткамі, у выпадку ўзбуджэньня адпаведнымі ўстановамі належных хадайнічаньняў.

2) Сялянскім Камітэтам Грамадзкай Узаемадапамогі гэтыя сады разам з зямельнымі вучасткамі, якія да іх адносяцца, могуць быць перадаваемы па іх хадайнічаньню дарэмна—сельскім камітэтам ня болей двух садоў, раён괌ным—ня болей трох.

3) Эксплёатуемыя школамі і Сялянскімі Камітэтамі Грамадзкай Узаемадпамогі сады з складу дзяржмаемасьцяй не выключаюцца і знаходзяцца на асобным вучоце ў ліку вучасткаў рознага назначэньня.

4) Нескарыстаныя ў вышэй паказаным парадку дробныя непрацоўныя сады павінны быць перададзены ў сталае працоўнае карыстаньне грамадзян, якіх землі да іх прылягаюць.

5) Пры перадачы ў працоўнае карыстаньне паказаных садоў павінна быць даваема перавага дэмобілізаваным чырвонаармейцам, інвалідам грамадзянскай вайны і пасечнікам (пчаляром), калі толькі землі гэтых асоб прылягаюць да ліквідуемых садоў.

6) Зямельныя вучасткі, якія адносяцца да ліквідуемых садоў, павінны быць разьмеркаваны сярод грамадзян, якія маюць у гэтым патрэбу, у працоўнае карыстаньне ў агульным парадку.

7) Грамадзяне, якія атрымліваюць у працоўнае карыстаньне быўшыя непрацоўныя сады, павінны аплаціць кошт растучых у іх пладовых насаджэньняў.

8) Ацэнка і перадача садоў робіцца па адпаведных актах асобнымі камісіямі, якія складаюцца з прадстаўнікоў Райвыканкому, фіноргану і раённага агронома або яго памочніка.

Пры ацэнцы іх неабходна прытрымлівацца наступных нормаў:

а) зусім здаровыя, бяз усякіх відных сур'ёзных пашкоджаньняў пладаносныя дрэвы—2 руб. за шт.;

б) дрэвы, маючыя якія-небудзь пашкоджаньні, паніжаючыя пладаноснасьць, у залежнасьці ад ступені пашкоджаньня—1—$1^1/_2$ руб. за шт.

в) маладыя непладаносныя дрэвы, а таксама моцна пашкоджаныя, але ўсё-такі яшчэ маючыя патрэбу ў замене новымі—50 кап.

г) дрэвы, якія пры нармальным вядзеньні садоўніцтва належаць замене новымі, аплаце не падлегаюць.

10) Агульны кошт усяго саду абвяшчаецца грамадзянам, атрымаўшым сад, і ім прапануецца падзяліць паміж сабою адпаведна колькасьці і якасьці дрэваў атрыманых кожным.

11) У выпадку недасягненьня імі згоды паміж собою дабраахвотна, гэтае пытаньне вырашаецца па месцы асобнай камісіяй, якая складаецца з прадстаўнікоў Райвыканкому, Сельсавету і ўпаўнаважанага ад грамадзян, атрымаўшых сад.

12) Кожны грамадзянін, атрымаўшы дрэвы, уносіць у касу фінорганаў належачую з яго плату на працягу трох месяцаў з дня перадачы яму саду і нясе адказнасьць толькі за сябе.

13) З грамадзян, атрымаўшых сады ў працоўнае карыстаньне, але ня ўнёсшых за іх плату ў касу фінорганаў дабраахвотна, такая сыскваецца ў бясспрэчным парадку.

14) Грошы, атрыманыя за пладовыя дрэвы, паступаюць цалкам у мясцовыя сродкі.

15) Дзякуючы таму, што цэнтры большасьці былш. маёнткаў атрымліваюць звычайна былыя парабкі або малазямельныя і беззямельныя сяляне, ня маючыя даволі сродкаў на аднычасовую выплату за атрыманыя імі дрэвы, ім даецца права ўзносу плацяжу на выплат на тэрмін да трох гадоў.

16) Не нацыяналізаваныя да гэтага часу сады, у далейшым нацыяналізацыі не падлягаюць, незалежна ад іх разьмераў, калі толькі яны знаходзяцца ў фактычным працоўным карыстаньні грамадзян.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

Нач. Кіраўніцтва Мэліозему і Дзяржмаемасьцяй
НКЗ БССР **А. Шычко.**

Загадчык Аддзелу Дзяржмаемасьцяй **Стралкоу**.

12 красавіка 1926 г.
№ 8888.

---

## Правілы унутранага распарадку у вэтэрынарна-лячэбных установах БССР.

§ 1. Паводле 55 арт. Кодэксу Законаў аб Працы ўстанаўляюцца „Правілы ўнутранага распарадку“.

§ 2. Працаўнікі павінны падлягаць усім законным распараджэньням асоб, якія нясуць адказнасьць за правільнае вядзеньне справы ва ўстанове.

§ 3. У выпадках, выклікаючых сумненьне ў законнасьці адданых адміністрацыяй распараджэньняў, працаўнікі, не прыпыняючы выкананьня распараджэньня, павінны заявіць у адпаведную саюзную інстанцыю (мясцком або ўпаўнаважанаму).

§ 4. Ускладаньне адміністрацыяй на рабочых і служачых якіх-небудзь службовых абавязкаў у вольны ад працы час, а таксама ў выхадныя дні не дапушчаецца.

*Увага.* У пільных выпадках са згоды мясцкому або ўпаўнаважанага працаўнікі, пазбаўленыя ад працы, могуць быць прыцягнуты да працы, за якую адміністрацыя павінна адплаціць адпаведным вольным часам або належнай компэнсацыяй.

§ 5. Працаўнікі ў вэтэрынарна-лячэбных установах ня могуць быць выкарыстаны адміністрацыяй для выкананьня асабістых услуг або даручэньняў.

§ 6. Працаўнікі павінны зьяўляцца акуратна, без спазьненьняў на работу і пакідаць яе не раней за ўстаноўлены час.

§ 7. Бязумоўна забараняецца самавольнае пакіданьне работы ў рабочы час (парадак дазволу адлучкі па ўважных прычынах устанаўляецца асобнай інструкцыяй).

§ 8. Пэрсональ павінен беражна адносіцца да маемасьці: да апаратаў, прыладаў і адзежы, прыймаючы меры да акуратнай аховы апошняга і зараз-жа паведамляючы аб іх сапсуцьці, паломе або згубе, з прадстаўленьнем паломанага або сапсутага прадмету.

§ 9. За псаваньне маемасьці ўстановы з-за неахайнасьці або з-за парушэньня „Правіл унутранага распарадку“ работнікі нясуць матар'яльную адказнасьць у парадку 83 арт. Кодэксу Законаў аб Працы.

§ 10. Як правіла, агульныя і дэлегацкія сходы супрацоўнікаў ва ўстанове, а таксама паседжаньні Мясцкому ў рабочы час не дазваляюцца.

*Увага 1.* Згодна Кодэксу Законаў аб Працы (арт. 161) сходы могуць адбывацца і ў рабочы час у выпадках выбараў у Саветы Рабочых і Сялянскіх Дэпутатаў, ва ўстановы Соц. Страхаваньня або выбараў на Зьезды Профсаюзаў, у другіх выключных выпадках гэта дапушчаецца толькі па ўзгадненьню з адміністрацыяй.

*Увага 2.* Паседжаньні Мясцкому могуць адбывацца ў выключных выпадках па ўзгадненьню з адміністрацыяй і ў рабочы час.

§ 11. Для прыёму лячэбніцы, амбуляторыі і пункты адчынены на працягу 4-х гадзін, пасьля чаго робяцца выезды, канцылярскія і адміністрацыйна-гаспадарчыя работы. Наогул лік рабочых гадзін для вэтэрынарнага пэрсоналю не павінен перавышаць 6 з паловаю гадзін. У стацыёнарных вэтлячэбніцах у іншы час дня застаюцца дзяжурныя вэтпрацаўнікі, на якіх ляжыць адказнасьць за парадак ва ўстанове, пунктуальнае кола абавязкаў дзяжурнага пэрсоналю ўстанаўляецца РКК дадатковай інструкцыяй.

§ 12. У пільных выпадках прыём адбываецца ў любы час сутак.

*Увага.* Пільным называецца такі прыём, калі лячэбная дапамога патрабуецца зараз-жа, ад аказаньня якой залежыць захаваньне жыцьця жывёліны.

Да пільных выпадкаў адносяцца:

1) усе віды колік і тымпоніт;
2) няправільныя роды;
3) моцнае кровацячэньне;
4) востра-інфэкцыённыя захварэньні;
5) атручэньне;
6) іншародныя целы ў харчаводзе і лёгкіх.

§ 13. Лячэбная дапамога губіць пільны характар, калі: 1) з мамэнту зьяўленьня першых прызнакаў захварэньня да мамэнту зьвяртаньня да вэтэрынарнага пэрсоналю прайшло болей за суткі; 2) калі да аказаньня першапачатковай дапамогі запрашаліся не спэцыялісты і апошнія рабілі якое-небудзь лячэбнае ўмешваньне.

§ 14. Парадак карыстаньня працаўнікамі выхаднымі і сьвяточнымі днямі, парадак падліку і запісу зьверхвурочных работ, а таксама спэцыяльных работ, якія патрабуюць падліку, наведваньні і выезды да хворае жывёлы і г. п. (парадак і сродкі прадстаўленьня пэрсоналю спэцадзежы і забясьпечваючых прыладаў, мыла, а таксама парадак

карыстаньня імі і захаваньня, парадак і месца выплаты пэнсіі служачым і рабочым устанаўляецца РКК ў відзе дадатковай інструкцыі.

§ 15. „Правілы ўнутранага распарадку“ зьяўляюцца абвязковымі для ўсіх працаўнікоў і адміністрацыі даннае ўстановы з мамэнту выданьня іх устаноўленым парадкам і апублікаваньня для агульнага ведама працаўнікоў (праз вывешваньне на відных мясцох ва ўстанове і г. п.).

Па апублікаваньні „Правіл унутранага распарадку“ ні адна з старон ня мае права адмаўляцца няведаньнем іх.

§ 16. Парушэньнямі ўстаноўленых „Правіл унутранага распарадку“ ва ўстановах лічацца:

а) не аказаньне вэтдапамогі па выкліку ў пільных выпадках (§ 12);

б) спазьненьне на працу бяз уважлівых прычын;

в) адлучка ад месца працы або пакіданьне яе раней за ўстаноўлены тэрмін без адпаведнага дазволу;

г) няяўкі на працу бяз уважных прычын;

д) невыпаўненьне правіл па ахове ўстановы і маемасьці, якая ў ёй знаходзіцца, і ўстановак;

е) грубыя адносіны служачых адзін да аднаго, а таксама і да даведнікаў ва ўстанове;

ж) зьяўленьне на працу ў нецьвярозым выглядзе;

з) няпрыстойныя паводзіны ў часе працы ва ўстанове (лаянка, бойка);

і) іншыя ўчынкі, якія парушаюць „Правілы ўнутранага распарадку“.

§ 17. Кары за парушэньне „Правіл унутранага распарадку“ могуць выражацца ў наступным:

а) увагі з папярэджаньнем;

б) выгавар з абвяшчэньнем па ўстанове;

в) звальненьне са службы, паводле Кодэксу Законаў аб Працы, або дзейнічаючага колектыўнага дагавору.

§ 18. Кары за парушэньне „Правіл унутранага распарадку“ устанаўляюцца адміністрацыяй даннае ўстановы з неадкладным давядзеньнем да ведама мясцкому або профупаўнаважанага ўстановы аб накладзенай кары.

*Увага.* Звальненьне ў выпадку парушеньня „Правіл унутранага распарадку“ робіцца адміністрацыяй з папярэдняе згоды мясцкому або профупаўнаважанага. У выпадку нязгоды апошняга пытаньне аб звальненьні пераносіцца ў МРКК, адміністрацыя-ж установы мае права да пастановы РКК зьняць працаўніка з работы.

§ 19. Працаўнікі нездаволеныя накладзенаю на іх караю за парушэньне распарадку могуць абскардзіць у мясцком або ўпаўнаважанаму, а апошні перадае пытаньне ў РКК, дзе і разглядаецца пытаньне ў парадку, устаноўленым для разгляданьня конфліктаў.

§ 20. Парушеньне „Правіл унутранага распарадку“ адміністрацыяй разглядаецца, як парушэньне закону аб працы і колектыўных дагавораў, за якія адміністрацыя адказвае па суду, згодна Кодэксу Законаў аб Працы.

§ 21. „Правілы ўнутранага распарадку“ могуць быць у залежнасьці ад зьмены ўмоваў работы ў цэлым або паасобных частках, перагледжаны і зьменены ў тым-жа парадку, у якім яны былі перш выпрацаваны і зацьверджаны.

§ 22. Адміністрацыя павінна вывешваць усе дзейныя заканадаўствы аб працы, якія выдаюцца Народным Камісарыятам Працы і Цэнтральнымі органамі.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

За Народнага Камісара Працы БССР **Ляуданская.**

Вык. абав. Начальніка Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ **Серпау.**

---

## Інструкцыя для вучастковага вэтэрынарнага урача.

1. У кола абавязкаў вучастковага вэтэрынарнага ўрача ўваходзяць:

а) барацьба з заразьлівымі хваробамі;

б) вэтэрынарна-асьветная праца;

в) амбуляторнае і стацыёнарнае лячэньне хворае жывелы;

г) выезд на месцы ў выпадку зьяўленьня эпізоотый;

д) агляд убойнай скаціны і продуктаў убою;

е) назіраньне за санітарным становішчам месц убою скаціны і скацінных могальнікаў.

ж) вэтэрынарна-санітарны нагляд за перавозкаю жывёлы па жалезных дарогах, водных і грунтавых шляхох;

з) нагляд за месцамі зграмаджэньня жывёлы, (таргі, рынкі і інш);

і) нагляд за ўтылізацыённымі скуранымі заводамі, месцамі гандлю мясам, каўбаснымі і кішэчнымі прадпрыемствамі, складамі сырых жывёлавых продуктаў і інш;

к) удзел у зоотэхнічных мерапрыйманьнях;

л) удзел у страхаваньні жывёлы.

2. Вэтэрынарны ўрач павінен прыймаць усе меры да папярэджаньня і спыненьня заразьлівых захварэньняў, згодна паказаньняў навукі і кіруючыся правіламі, якія выдаюцца па барацьбе з эпізоотыямі.

3. Для ўзмацненьня вэтэрынарнай дапамогі ў пунктах, пагражаючых разьвіцьцём эпізоотый (вэтустаў, арт. 2, п. 18), вучастковыя вэтэрынарныя ўрачы па патрабаваньню Вэткіраўніцтва пры пагоджаньні з вэтчасткаю Акрземаддзелу могуць быць часова адкамандыраваны на гэту працу з аднае вакругі ў другую.

4. Вэтэрынарны ўрач мае права патрабаваць ад мясцовае ўлады і насельнасьці бязумоўнае дапамогі ў сваёй працы на мясцох пры аглядзе і дасьледваньні жывёлы, пры правядзеньні прывівак, дэзынфэкцый, ачысткі зазаражаных памяшканьняў, уборцы трупаў і інш.

5. Пры зьяўленьні эпізоотый сельская ўлада павінна даваць перавозныя сродкі для аб'езду сяленьняў за ўстаноўленую плату.

6. Праца вэтэрынарнага ўрача ў лячэбніцах і амбуляторыях адбываецца ў вызначаныя гадзіны, якія ўстаноўлены вэтурачом па ўзгадненьню з падлеглымі Райвыканкомамі.

*Увага.* У выпадку неабходнасьці службовых выездаў вызначаны час для прыему хворае жывёлы ў лячэбніцах і амбуляторыях можа быць скарочаны. Адзін дзень на тыдзень згодна

з мясцовымі ўмовамі кожнага вэтэрынарнага вучастка абвяшчаецца вольным ад прыёму хворае жывёлы.

7. Цяжка хворая жывела, якая патрабуе сьпешнай дапамогі, прымаецца бяз усякай чаргі.

8. У дзень няпрыёмны і ў гадзіны, якія нявызначаны для звычайнага прыёму, вэтдапамога даецца толькі ў пільных выпадках, якія пагражаюць жыцьцю жывёліны.

9. Выезды на месцы захварэньняў для вэтурача зьяўляюцца абавязковымі пры зьяўленьні павальных эпізоотый. Выязная сыстэма падачы лячэбнай дапамогі зьяўляецца абавязковай толькі для буйнае сельска-гаспадарчае жывёлы ў выпадках, якія пагражаюць сьмерцю і патрабуюць сьпешнай вэтдапамогі, пры немагчымасьці дастаўленьня іх у вэтлячэбніцу або амбуляторыю. Да азначаных захварэньняў адносяцца: востры тымпоніт (вострае ўздуцьце трыбухі), моцнае кровацячэньне, пералом, няправільныя роды, пасьляродавыя сударгі і іншародныя целы ў харчаводзе.

*Увага.* Лячэбная дапамога ў гэтых выпадках губіць характар пільнасьці, калі з мамэнту захварэньня жывёліны прайшло болей за суткі, а таксама калі да часу зьвяртаньня за вэтдапамогаю аказвалася дапамога не спэцыялістымі.

10. Ускрыцьце трупаў робіцца толькі па пагляду вэтурача і па патрабаваньню сьледчых органаў.

11. Усе опэрацыі робяцца са згоды ўладара, і за выхад опэрацыі, як у мамэнт правядзеньня яе, так і ў пасьляйдучы пэрыяд вэтурач не адказвае.

12. Кастрацыі робяцца толькі ў лячэбніцах і амбуляторыях у ўстаноўленыя для прыёму ў гэтых установах гадзіны.

13. Уся вэтэрынарная дапамога аказваецца бясплатна.

14. Агляд убойнае скаціны і мясных продуктаў робіцца на пунктах у дні і гадзіны ўстаноўленыя вэтурачом па ўзгадненьню з адпаведнымі Райвыканкомамі з выпаўненьнем закону аб нормах аб працы.

15. Увесь вэтпэрсональ ў сваёй працы падлягае распараджэньням вэторганаў Акруговых Зямельных Аддзелаў і Райвыканкомаў, а таму ўсякага роду скаргі на няправільныя дзеяньні вучастковага вэтурача, ад якіх-бы асоб і ўстаноў яны ня выходзілі, павінны накіроўвацца непасрэдна па прыналежнасьці. У аканчальнай форме скаргі вырашаюцца Вэткіраўніцтвам НКЗ.

16. Усякага роду ўмешваньні ў спэцыяльную працу вэтурача пабочных устаноў і службовых асоб бяз ведама Зямельных органаў не дапушчаюцца.

17. На вучастковым урачы ляжыць абавязак па складаньню і прадстаўленьню ў Райвыканком і Акрземаддзел усёй устаноўленай справаздачы.

18. Вэтэрынарныя фэльчары, якія знаходзяцца на службе на вучастках, у службовых адносінах падлягаюць адпаведнаму вучастковаму ўрачу і выконваюць усю працу па яго паказаньнях.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Валодзька.**

За Начальніка Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ БССР **Агапітаў.**

Сэкратар **Макарчук.**

22 чэрвеня 1926 г.

*Дело № 264 — 1926 г.*

## Постановление.

*Именем БССР*

1926 года июня 15 дня Особая Коллегия Высшего Контроля по спорным земельным делам при Наркомземе Б. С. С. Р. в составе:

Председателя тов. Лобановского

Членов: От Наркомʻюста тов. Зыбко
От Наркомзема тов. Лиодта

по докладу докладчика тов. Белинского рассмотрела дело по расспределению земли в уроч. Новая Нива, Осиповичского района, вступившее по жалобе Адама Лосицкого на постановление Бобруйской Окружной Земкомиссии.

Настоящее дело возникло по ходатайству гр-н фольварка Новая Нива, Осиповичского района, Бобруйского округа и распоряжению Бобруйского ОКРЗО от 4 июля 1925 года за № 6029.

Обследованием, произведенным 22 октября 1925 года, а также в процессе землеустроительных работ установлено, что в означенном фольварке пользуются земельными участками и организовали на них хозяйства Иван Верниковский и Александр Яцевич, являющиеся быв. арендаторами, быв. владельцы фольварка, причем из дел об обрезке хозяйств Верниковского и Яцевича видно, что в пользовании первого из них находилось $18^1/_2$ дес., а второго 12 дес. земли разных угодий, каковое количество земли оставлено за каждым из указанных хозяйств решением Бобруйской ОЗК от 5-го ноября 1924 года, признавшей хозяйства Верниковского и Яцевича трудовыми и не подлежащими обрезке.

Обследованием же установлено, что Верниковский имеет в своем пользовании 15 дес., а Яцевич 11 дес. земли, за каковое количество и платят продналог.

Кроме того в том же 1924 году было возбуждено дело об обрезке хозяйства Адама Лосицкого, но по делу было установлено, что в пользовании Лосицкого на 5 едоков имеется 12 дес. земли, предоставленной ему для поселения в 1922 г. Погорельским ВИК-ом. Решением Бобруйской ОЗК от 5 ноября 1924 г. дело об обрезке хозяйства Лосицкого прекращено и во временном его пользовании до землеустройства оставлено означенное количество земли.

Остальная земля названного фольварка, как пахотная, так и сенокосная находилась во временном пользовании гр-н станции Уборок, причем некоторые из них с разрешения Погорельского ВИКʻа возвели постройки, а некоторые из гр-н возбудили ходатайства о наделении их усадебными участками.

25-го октября 1925 года при участии агронома было произведено почвенное и естественно-историческое обследование земли Новая Нива и включенных в общую землеустроительную дачу уроч. Гумище и др., причем нормой наделения было установлено по 6 дес. земли на каждое хозяйство за исключением тех гр-н, которые заявили хо-

датайство о наделении их усадебными участками и Верниковского Ивана и Яцевича Александра, из которых в пользование первому должно быть оставлено 15 дес. земли, а второму 11 дес. Тогда же были определены и усадебные участки.

После обмера земли и выяснения площади землеустроительной дачи оказалось, что во всей даче имеется 161,68 дес. земли разных угодий.

Согласно землеустроительного проекта от 28 октября 1925 года, составленного землеустроителем Ждановичем на всей означенной площади спроектированы 3 поселка: 1-й—Цегельня на площади 62,18 дес. на 8 домохозяев и в том числе Адаму Лосицкому предоставлено 6,50 дес. земли, 2-й—Новая Нива на площади 55,01 дес. на 11 домохозяев, причем Ивану Верниковскому 14,90 дес., Александру Яцевичу 10,90 дес. земли, а гр-нам Марии Гейман, Павлу Босько и др. усадебные участки, площадью от 0,85 дес. до 0,99 дес., 3-й—Хвоя на площ. 48,13 десятин на 8 домохозяев, кроме того спроектирован для Каленика Шичко хуторской участок, площадью 5,86 дес. и под кирпичный завод Лапичского КОВ 0,50 дес. Все отведенные участки были отграничены в натуре межевыми знаками и участникам землеустройства было об'явлено, что приступить к пользованию своими участками они могут по утверждении проекта.

Против проекта, пред'явленного 31-го октября 1925 года, сделал возражение Адам Лосицкий, заявивший, что ему должна быть предоставлена земля в том количестве, в каком он пользуется с 1921 г. т. е. 12 дес.

Вместе с тем Адам Лосицкий подал жалобу в ОКВК на неправильное лишение его части земли, находящейся в его фактическом пользовании.

ОКВК 14-го октября 1925 г. за № 3895 раз'яснила Бобруйскому ОКРЗО, что пользование Лосицкого землей в количестве 12 дес., предоставленной ему закономерно в 1922 г., является трудовым, причем из'ятие у него земли в порядке землеустройства может быть произведено лишь в том случае, если количество земли превышает установленную максимальную норму и за ним должно быть сохранено его фактическое пользование, причем ОКВК предложила сделать соответствующее раз'яснение районному землеустроителю, что Бобруйским ОКРЗО и было исполнено.

В своих возражениях против землеустроительного проекта, а затем и при разборе дела Осиповичской РЗК 17 февраля 1926 г. участники землеустройства указывают:

Адам Лосицкий—что из'ятие из его пользования земли является неправильным, как нарушающее его фактическое пользование и противоречащее 124 ст. ЗК и раз'яснению ОКВК.

Мария Гейман—что ей первоначально был предоставлен усадебный участок, расположенный между участками Верниковского и Чернова, а затем этот участок без всяких оснований был предоставлен Мухину, а ей отведен другой.

Григорий Яцевич—что ему приходится переносить постройки.

Иван Верниковский—что из 13 дес. земли, находящейся в его пользовании, из'ято 3 дес., чем нарушено его трудовое фактическое пользование.

Александр Яцевич—что ему приходится сносить возведенные постройки.

Каленик Шичко—что ему не оставлена та земля, которая им

разработана и находилась в его пользовании.

Представитель Зап. ж. дор.—что неправильно проложена граница по плану от лит. „Б“ в сторону лит. „В“ от углового столба № 4-й до столба № 8-й, а именно: граница проведена прямыми линиями со столба на столб, а нужно было провести границу правильной кривой линией параллельно оси полотна жел. дороги, так как хотя проектом прирезана к жел. дор. лишняя земля, но при проведении землеустройства по другую сторону полотна от жел. дороги должна отойти нужная последней земля.

РЗК, рассмотрев дело, нашла что землеустроительный проект составлен правильно, что норма земли установлена сообразно качеству последней, что Лосицкому была предоставлена земля во временное пользование до землеустройства, почему его возражения неосновательны, что Мария Гейман не имеет построек и для нее безразлично на каком участке поселиться, а при удовлетворении ее ходатайства пострадают интересы других гр-н, что возражение представителя жел. дороги неосновательно, так как при обходе межи представитель последней присутствовал, почему утвердила землеустроительный проект и все возражения оставила без последствий.

Бобруйская ОЗК, рассмотрев дело 5 апреля 1926 года, по жалобе Адама Лосицкого, Ивана Верниковского, Управления Западных железных дорог, Каленика Шичко, Марии Гейман и Павла Босько, нашла, что землеустроительный проект по распределению земли фольв. Новая Нива подлежит утверждению за исключением организации поселка Новая Нива, так как при организации такового не были правильно установлены границы Зап. жел. дор. и кроме того усадебные участки в нем должны быть распределены в таком порядке, чтобы лица, не наделяемые земельными полевыми наделами, а получающие лишь одни усадьбы, получили таковые около жел. дор. станции, с оставлением на старых усадьбах тех участников поселка, которые возвели постройки до землеустройства. При составлении проекта жел. дороге отведена даже лишняя земля, а в протоколе распределения усадеб от 26 октября 1925 г. имеется ряд исправлений, благодаря чему не представляется возможным судить о том, кому и какая усадьба предоставлена.

Жалобы Адама Лосицкого и Ивана Верниковского являются неосновательными потому, что первому из них 12 дес. земли в уроч. Новая Нива были предоставлены во временное пользование до землеустройства, что не могло породить для него права на наделение землей при землеустройстве по максимальной норме, а второму земля предоставлена по максимальной норме и домогательство его об оставлении в его пользовании всей земли является не подлежащим удовлетворению.

Жалоба Каленика Шичко является неосновательной потому, что ему предоставлено количество больше, чем он раньше пользовался, и что он не ведет культурного хозяйства на своей земле, по землеустроительному же проекту изменены границы его пользования с таким расчетом, чтобы он остался на месте без сноса построек.

Ходатайство Павла Босько о замене, согласно состоявшегося соглашения, земельных участков между ним и Яцевичем не подлежит удовлетворению, а при новом распределении усадебных участков он может получить усадебный участок с согласия остальных граждан в более выгодном для себя месте.

По изложенным соображениям ОЗК утвердила землеустроитель-

ный проект по отводу поселка Цегельня и Хвоя, а отменила таковой в отношении отвода поселка Новая Нива и дело возвратила для пересоставления проекта.

В ОКВК поступили жалобы: 1) от Адама Лосицкого, в которой он поддерживает свои первоначальные заявления и указывает, что неправильно изъята из его пользования земля и ему вместо 12 дес. предоставлено лишь $6^1/_2$ дес., чем и нарушено и расстроено его хозяйство, почему просит отменить решение ОЗК и приостановить приведение последнего в исполнение. ОКВК отношением своим на имя Бобруйской ОЗК предложила приостановить приведение в исполнение решение ОЗК от 15 апреля 1926 г. в части, касающейся Адама Лосицкого.

2) Гр-не поселка Новая Нива жалуются на решение ОЗК в отношении неутверждения этого поселка, так как до землеустройства они пользовались землями, вошедшими в поселки Хвоя и Цегельня, и при землеустройстве наделены землей в поселке Новая Нива, а теперь они поставлены в крайне тяжелое материальное положение, будучи лишены прежней земли и не имея возможности пользоваться землей в поселке Новая Нива, вследствие неутверждения таковго и что в пользовании Ивана Верниковского, уволенного со службы лесного сторожа 1 мая 1924 года, числилось по наловым спискам 14 дес. пашни и $1^1/_2$ дес. сенокоса.

3) Гр-не поселка Цегельня протестуют против распоряжения ОКВК о приостановлении решения ОЗК в отношении изъятия земли из пользования Адама Лосицкого, так как земля предоставлена Лосицкому во временное пользование.

4) Гр-н Павел Босько просит утвердить землеустроительный проект в отношении организации поселка Новая Нива, где ему отведен и усадебный участок, так как он приобрел материал для постройки, а теперь ему негде строиться.

5) Гр-н Гвидон Верниковский, указывающий на то, что предоставленное ему количество земли является недостаточным, так как ему наделена только усадебная земля и не предоставлена полевая.

На основании изложенного ОКВК находит, что:

1) Охрана прав трудового землепользования и обеспечение его устойчивости являются основными задачами, поставленными Земельным Кодексом перед земельными органами. Подогревание мысли перераспределения земли создает у населения неуверенность в устойчивости трудового землепользования, следствием чего является нехозяйственное отношение к земле. Землепользователь не будет думать о разных улучшениях своего хозяйства.

2) Между тем некоторые зоморганы вопреки требованиям ст. ст. 125 бывш. и ныне 124 действующего Земкодекса продолжают до настоящего времени рассматривать бывшие нетрудовые земли сельскохозяйственного назначения, предоставленные на основании административного распоряжения местной власти отдельным обособленным дворам, или же в судебном порядке закрепленные за ними, как запасный земельный фонд, изымая его целиком из трудового пользования указанных дворов для организации поселков и других сельско-хозяйственных объединений или же производя перераспределение этих земель в целях „подравнения" до минимальной нормы.

3) Согласно положений Земкодекса, изложенных в указанных статьях, а также в статьях 12, 13, 17 и 25 новаго Земкодекса, земли находящиеся с дореволюционного времени в пользовании бывших

В крестьянской жизни более чем где-нибудь бывают случаи неоформленного принятия ребенка в свою семью. Если это неоформленное состояние сохранится и принятый не будет затем усыновлен, за ним сохраняется, до достижения им совершеннолетия, право на алименты от лица его принявшего.

Постановления Кодекса об усыновлении не относятся, конечно, к примачеству, т. е. приему в семью в качестве мужа, домохозяйки или ее дочери. Примак по силе 64 и примечания 2-го к 73 ст. Зем. Код. является членом двора со всеми присвоенными члену двора правами.

В заключение отметим, что при выработке правил об опеке и попечительстве также были приняты во внимание интересы крестьянства, при чем в согласии с 68 ст. Земельного Кодекса проект кодекса законов о браке, семье и опеке органом опеки для сельских местностей делает президиумы сельских советов, которые включены в общую систему опекунских учреждений (84 ст.).

В сельских местностях постановления проекта кодекса об опеке и попечительстве должны действовать с одним ограничением, которое устанавливается 68 ст. Зем. Код., а именно: над несовершеннолетними членами двора учреждается опека лишь в том случае, если среди членов двора не остается лиц, достигших совершеннолетия.

6-го июля 1926 года.

**Б. Ватаци.**

АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ: У зьвязку з пастановаю ІІІ-яй Сэсіі ЦВК БССР па проэкту Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы аб перадачы гэтага пытаньня на папярэдняе абгаварэньне шырокіх працоўных мас насельніцтва, Рэдакцыйная Калегія, зьмяшчаючы ў гэтым нумары артыкул т. Ватацы, адчыняе ў Бюлетэню СНК дыскусію па пытаньнях шлюбу, сям'і і апекі і просіць усіх зацікаўленых гэтым пытаньнем прысылаць у Рэдакцыю Бюлетэню свае артыкулы для зьмяшчэньня.

За зьмест гэтых артыкулаў Рэдакцыйная Калегія адказнасьці на сябе не бярэ.

---

## Экономічнае становішча Чэрыкаускага Райёну Калінінскае Акругі.

*Райвыканкомы і сельсаветы.* Райённы Выканаўчы Камітэт у 1925—1926 г. складаецца з 15 членаў, з якіх—14 мужчын і 1 жанчына; па нацыянальнаму складу: беларусаў—11, расейцаў—1, яўрэяў—1 і інш. нацыян.—2; па партыйнасьці: членаў і кандыдатаў КПБ—10, членаў ЛКСМ—1, беспартыйных—4.

З пункту гледжаньня РВК, склад яго здавальняючы і працаздольны. Вызначаныя Зьездам Саветаў дырэктывы выконваюцца гэтак-жа, як і выкананы ўсе мерыпрыемствы і дырэктывы, стаяўшыя перад складам РВК ў 1925 г. Сувязь паміж РВК і сельсаветамі—моцная, ана адчуваецца ў сталым кіраўніцтве праз заслухоўваньне дакладаў сельсаветаў на паседжаньнях РВК, праз тэхнічную і жывую сувязь і прымацаваньне членаў РВК да сельсаветаў.

У склад сельсаветаў у 1925—1926 г. уваходзіць 188 членаў, з іх мужчын--179, жанчын--9; членаў КПБ--8, з якіх кандыдатаў--12, членаў ЛКСМ—16, беспартыйных—152; беларусаў—184, расейцаў—4; з іх складу старшынь—14, сэкратароў—14,з якіх членаў КПБ—1,кандыдатаў—8, членаў ЛКСМ—5, беспартыйных—14.

Што тычыцца працы беспартыйнага сельскага актыву ў масштабе РВК, то ўдзел яго ў гэтай працы невялікі, бо ён усю сваю працу праводзіў, гуртуючыся навокал сельсаветаў і іх камісій.

Запатрабаваньні сялянства выяўляюцца праз іх сходы і носяць характар выключна матар'яльна эканомічны.

РВК, а таксама і сельсаветы, у сваёй штодзеннай працы апіраўся і апіраецца на пэўны склад кадраў, як-та: настаўнікаў, аграномаў, землеўпарадкавацеляў, лекароў, працаўнікаў лесу і міліцыі.

Вышэйадзначаныя працаўнікі па меры патрэбы робяць справаздачы аб сваёй працы і атрымліваюць належныя ўказаньні ад РВК, адным словам, уся інтэлігэнцыя, якая ёсьць у раёне, калі зяўляецца патрэба, выкарыстоўваецца цалкам.

*Сельская гаспадарка.* Агульная плошча зямлі ў раёне, якая ў сучасны момант выкарыстоўваецца, раўняецца 105.111 дзес.:

| Катэгорыі землякарыстацеляў. | Лік гаспадарак. | Усяе зямлі. | У тым ліку. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Воранай. у дзес. | Сенажац. у дзес. | Пад лясамі і кустамі у дзес. | Пад інш. у дзес. |
| У сялянск. гаспадар. | 7762 | 84725 | 57892 | 8114 | 7127 | 1192 |
| Колект. гасп. і арцелей . . . | 4 | 373 | 226 | 102 | — | 35 |
| Дзярж. фонд. . . | — | 18628 | — | 833 | 18105 | 17708 |

Усе быўшыя ў раёне маёнткі, займаючыя 19826 дзес. разьмеркаваны паміж сялян. Разьмеркаваньне праводзіў Земаддзел і Сельсаветы. На тэрыторыі раёну засталося за быўшымі валадарамі маёнткаў —10 дзес. (адна гаспадарка). Зямлю атрымалі з быўшых маёнткаў, галоўным чынам, парабкі гэтых маёнткаў, безьзямельныя і малазямельныя сяляне.

Усе гаспадаркі, якія знаходзяцца на зямлі быўшых маёнткаў, жывуць пасёлкамі, хутарамі і арцелямі, хутароў у раёне налічваецца —360 або—4,6 проц., пасёлкаў—137 або 33 проц., арцелей—4.

Найболей сяляне пераходзяць на пасёлкі і хутары, але часам старыя адстойваюць вобшчыну і хутары.

Усім гэтым гаспадаркам з боку РВК робіцца агрономічная дапамога.

*Арэнда зямлі.* У раёне заўважваюцца выпадкі арэнды зямлі, якую здаюць найчасьцей перасяленцы і ўдовы. Пашыранасьць арэнды зямлі ў раёне нязначная. Арандуецца, галоўным чынам, сенажаць, лясныя вырубкі і вораная зямля. Бяруць зямлю ў арэнду серадпякі і заможныя. Сенажаць арандуюць ад земаддзелу, лясныя вырубкі ад лясьніцтва і вораную зямлю ад перасяленцаў і маламоцных гаспадарак.

Сенажаць арандуюць на адзін год, вырубкі і вораную зямлю на тры гады, пры чым вораная зямля арандуецца найчасьцей за грошы, а здаецца яна ў арэнду беднякамі і серадпякамі. Усе арэндныя зьдзелкі на зямлю рэгіструюцца ў РВК за выключэньнем дробных.

*Землеўпарадкаваньне.* Для надзяленьня зямлёй безьзямельных і малазямельных гаспадарак, разьмеркавана паміж імі запаснага фонду —1253,6 дзес., і ўтворана запаснага фонду—4857 дзесяц. Разьмерка-

ваны запфонд зямлі (1253,6 дзес.) распаўся на 295 гаспадарак: 92 безьзямельных і 203 малазямельных. Маюць патрэбу ў данадзяленьні зямлей 36% усіх двароў. Усяго земляўпарадкавана 2957 двароў, супольна з 228 сталыпінскімі хутарамі, што раўняецца 38½ проц. усіх двароў раёну, на плошчы—24777 дзес. Галоўным чынам выбіраецца пасёлкавая форма землякарыстаньня і часткай хутарская. Земляўпарадкавана за дзяржаўны кошт—189 гаспадарак, а 2540—за кошт насельнасьці; прычым трэба адзначыць, што аплата землябудаўнічай працы насельнасьці не пад сілу.

Земорганамі прымаюцца належныя крокі да правядзеньня земляўпарадкаваньня ў 1927 годзе за дзяржаўны кошт. Усяго прайшло ў сувязі з земляўпарадкаваньнем да ўдасканаленай сыстэмы землякарыстаньня 1506 гаспадарак на плошчы—12044 дзес. або 19 проц. У галіне надзяленьня зямлёй яўрэяў утворана арцель „Эмес“ з колькасьцю зямлі: воранай—21 дзес., сенажаці—58 дзес.; у 1926 годзе намечана надзяліць яўрэйскую насельнасьць зямлёй на плошчы 200 дзес.

РВК прыняты крокі да ўскарэньня ўпарадкаваньня зямлі: праводзілася земляўпарадкаваньне дачамі разьмеркаваньня, каб не распыляць каморніцкі склад на дробныя справы, прыняты належныя крокі да сканчэньня ўсіх спраў, якія былі ня скончаны ў мінулым годзе, а таксама прыняты крокі да ўпарадкаваньня сенажатнага фонду, які ў наступным годзе будзе канчаткова разьмеркаваны паміж сялянамі.

*Паляводзтва.* Усяго пасяўной плошчы ў 1925 годзе было 26489 дзес., з якіх пад азімым жытам было 11911 дзес., яравым—30 дзес., пшаніцай азімай—7, яравой—772 дзес., аўсом—1661 дзес; грэчкай—4385 дзес., пшаном—371 дзес., гарохам—14 дзес., бульбай—3252 дзес., лёнам—612 дзес., канаплямі—403 дзес., чачавіцай—0,5 дзес., канюшынай—522 дзес., вікай—353 дзес., сэрадэлай—29 дзес. і люпінам—45 дзес.

У параўнаньні з даваенным часам пасяўная плошча пад грэчкай паменшылася, а пад жытам, пшаніцай і кармавымі травамі павялічылася, прычым пад пасяўнымі травамі павялічылася каля 20%. За апошнія тры гады пасяўная плошча пад кармавымі травамі мае значнае павялічэньне, што-ж тычыцца да лёну і бульбы, то павялічэньне пасяўное плошчы гэтых культур нязначнае. Галоўным чынам у раёне вядзецца трохпольле, шматпольле займае толькі 19 проц. усяе пасяўнае плошчы. На цераспалосных гаспадарках—трохпольле, на хутарскіх—шматпольле, на пасёлкавых—трохпольле з пасевам кармавых траў. Робяць перашкоду ў правядзеньні шматпольля ўкаранелы погляд на трохпольле і адсутнасьць сродкаў.

Ворыва пад зяблю ўжываюць амаль-што ўсе гаспадаркі. Раньняе ворыва папару праводзіць нязначная колькасьць гаспадарак. Насеньня ачышчана 2 проц. Ураджай за апошні год з дзесяціны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта . . . | 35 пуд. | Пшаніцы . . | 45 пуд. |
| Аўса . . . | 45 „ | Ячменю . . | 45 „ |
| Грэчкі . . . | 40 „ | Пшана . . . | 60 „ |
| Бульбы . . | 600 „ | | |

Ураджай у параўнаньні з даваенным узроўнем нязначны, але паменшаў дзякуючы таму, што глеба выпустошылася. За апошні год насельнасьцю закуплена сельска-гаспадарчых машын—72 шт., насеньня—1990 пуд. Гэтыя закупкі ў параўнаньні з даваеннымі гадамі значна павялічыліся ў сувязі з культурным узростам насель-

насьці і вытворчасьцю прамысловасьці. Безьзямельных гаспадарак—229, маючых да 1/2 дзес.—374, да 3-х дзесяц.—2272 дзес., да 6 дзес. —2675, да 12 дзес. і вышэй—2200 гаспадарак, нявыяўлена—229; безьзямельных гаспадарак паменшала, маючых да 3-х дзесяцін павялічылася і маючых да 12 дзес. і вышэй паменшала. Свайго хлеба не хапае да новага ўраджаю, галоўным чынам, у беднякоў і часткай у серадНякоў, прыблізна, у першых—з сакавіка, а ў другіх—з мая мес.

*Агродапамога.* Агрономічных вучасткаў у раёне маецца—1 з 1 агрономам і 2 памочнікамі. Закладзена дасьледчых вучасткаў у 95 гаспадарак, з якіх:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пад сэрадэлай | у 14 гаспад. | | З штучным угнаеньнем: | | |
| Люпін на семя | „ 6 | „ | Пад жыта | у 12 | гаспад. |
| Кармавыя буракі | „ 13 | „ | Люпін на ўгнаен. | „ 9 | „ |
| З радав. пасевам | „ 2 | „ | Турнэпс | „ 33 | „ |
| | | | Тэхнічн. травамі. | „ 4 | „ |
| | | | З баран. на зіму | „ 2 | „ |

Закладзена 24 семяньнікі, з якіх: люпіну—7 сэрадэлы — 7 і канюшыны — 10. Організаваны адзін зерняачышчальны абоз, які па раёну ачысьціў рознага збожжа 7438 пудоў.

Пракатных пунктаў у раёне няма.

Агропэрсоналем было зроблена 95 выездаў па абгляду пасеваў, па правядзеньню шматпольля і пасяўной кампаніі і ў зімовы тэрмін для чытаньня лекцый. Усяго праведзена 46 лекцый і гутарак, на якіх прапагандаваліся пасеў люпіну, сэрадэлы, канюшыны, правядзеньне шматпольля, раньняе ворыва папару і правільны догляд жывёлы.

Перашкаджаюць агрономічнай працы: укаранелы погляд на трохпольле, дорага каштуючыя тэхнічныя культуры і недахват агрономічнага пэрсоналю.

*Жывелаводзтва.* Усяго па раёну есьць коней—12610, кароў—15960, сьвіней—22387, авец—34674; у параўнаньні з даваенным узроўнем лік жывёлы паменшаў; за апошнія тры гады колькасьць жывёлы ўсіх відаў значна павялічылася, што тлумачыцца ўзмацненьнем сельскай гаспадаркі. Процант гаспадарак маючых працоўную жывёлу такі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Бязжывёльных | 8,5 | Маючых 2 галавы | 26,9 |
| Маючых 1 голаў скаціны | 61,7 | „ 3 і больш галоў | 2,9 |

За апошнія тры гады значна паменшаў процант бясконных гаспадарак і павялічыўся процант маючых адну і дзьве галавы.

Процант бясконных гаспадарак, а таксама і маючых больш за 3-е коней, паменшаў. Процант гаспадарак, маючых кароў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ня маючых кароў | 5,5 | Маючых 3 каровы | 8,3 |
| Маючых 1 карову | 47,8 | „ 4 і больш. кароў | 2,8 |
| „ 2 каровы | 35,6 | | |

Па раёну наглядаецца разьвіцьцё сьвінаводзтва ў сувязі з каштоўнасьцю гэтай жывёлы, а таксама аўцаводзтва. Адчуваецца недахват у вытворцах, як: жарабцы, бугаі і кнаразы.

Па раёну маецца 15 злучных пунктаў з лікам вытворцаў: жарабцоў—7, бугаёў—3, кнаразоў—3, бараноў—1.

Попыт насельнасьці на ўдасканаленых вытворцаў расьце.

*Вэтэрынарная дапамога.* У райёне ёсьць адзін вэтпункт з адным вэтфэльчарам, які знаходзіцца ў г. Чэрыкаве.

Эпізоотыі, якія заўважваліся за 1924-25 год, наступныя: на конях-кароста, мыт і ў рэдкіх выпадках сап і шаленства; на буйнай рагатай жывёле—пераплазман, сэптытэмія, катаральная гарачка галавы і ў вельмі рэдкіх выпадках сібірская язва; на авечках—пячоначная гліста, і насьвіньнях—чума і сэптытэмія, перашкаджаючыя разьвіцьцю сьвінаводзтва. Перашкаджаў барацьбе з эпізоотыямі недахоп мэдыкамэнтаў і прывівак Працант падзяжу скаціны за апошні час значна паменшаў, за выключэньнем сьвіней.

*Лугаводзтва.* Становішча лугоў за апошнія гады пагоршылася ў зьвязку з тым, што водаадводныя канавы не ачышчаюцца, збор сена ў 1925 г. з дзесяціны: заліўнога лугу 135 пуд. і сухадольнага—80 пуд.; даваенны збор сена з дзесяціны заліўнога лугу 135 пуд. і сухадольнага—85 пуд. Палепшаньне становішча лугоў праводзіцца шляхам організацыі мэліорацыйных работ, якія даюць добрыя вынікі.

Усяго па райёну ёсьць забалочаных лугоў 750 дзес.; організавана 4 мэліорацыйных таварыствы з лікам членаў—224 на плошчы 169 дзесяц.

*Садоуніцтва і гародніцтва.* У райёне налічваецца садоў не сялянскага тыпу—19, з плошчаю—88 дзес. Плошча сялянскіх садоў ня выяўлена, але трэба адзначыць, што сяляне ня маюць вялікіх садоў, тыя-ж, якія маюцца, служаць толькі для задавальненьня сваіх патрэбаў. Пладовых пітомнікаў у райёне няма, але ёсьць сяляне, якія пачалі іх закладваць.

РВК праз агропэрсональ растлумачвае насельнасьці неабходнасьць пашырэньня садоўніцтва.

Амаль што кожная сялянская гаспадарка мае гарод, плошчаю ад 30 да 150 квадр. саж., які толькі задавальняе патрэбы гаспадаркі. Прамысловых гародаў у райёне няма.

З гародніны вывозіцца на рынак, галоўным чынам, капуста і цыбуля.

Агрономічным пэрсоналем чытаюцца лекцыі па гародніцтву.

*Птушніцтва.* У параўнаньні з даваенным узроўнем павялічэньне птушніцтва нязначае.

*Пчалярства.* Усяго по райёну маецца 179 пасек з 2678 сем'ямі, з якіх большая частка знаходзіцца ў рамачных вульлях. У параўнаньні з даваенным узроўнем агульная колькасьць сямей мае значнае павялічэньне; тлумачыцца гэта тым, што сяляне маюць ад іх значную карысьць. Наглядаецца павялічэньне рамачных вульляў. У райёне арганізавана пчалярнае таварыства ў ліку 46 пасек, у якіх маецца —789 сямей. Да сучаснага моманту асаблівай увагі на пчалярную справу не зьвярталася, бо пчаляры па райёну ня былі аб'яднаны. У параўнаньні з даваенным узроўнем колькасьць продуктаў пчалярства значна павялічылася; гэта тлумачыцца павялічэньнем ліку сямей, а таксама і рамачных вульляў. Па разьвіцьцю пчалярства вядуцца лекцыі і ўцягваюцца пчаляры ў Т-ва.

*Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.* Па райёну маецца два сельска-гаспадарчых крэдытна-коопэрацыйных Т-вы і адно сельска-гаспадарчае, з лікам пайшчыкаў—1603; насельнасьць коопэравана на 20 проц. Пры адным сельска-гаспадарчым крэдытным таварыстве ёсьць адна цагельня, а пры другім—пракатны пункт і збожжаачышчальны боз. Адносіны насельніцтва да коопэрацыі добрыя. РВК прымае ўдзел у разьвіцьці коопэрацыі, уцягваючы праз сельсаветы сялянства ў пайшчыкі.

*Сельска-гаспадарчыя крэдыты.* Больш усяго патрабуецца крэдытаў на падняцьце жывёлаводзтва, закупку машын і насеньня, пабудову будынкаў. Галоўным чынам карысталіся крэдытам серадні і бедняні. Крэдыт давала сельска-гаспадарчае крэдытнае т-ва на 6-ці месячны тэрмін. Бедняні патрабуюць крэдыт на насеньне, пакупку жывёлы і пабудову будынкаў, серадняні—на пабудову будынкаў і пакупку машын. Пайшчыкамі ў крэдытнай коопэрацыі зьяўляюцца бедняні і серадняні, разьмер паю—5 рублёў. Сялянства, галоўным чынам, мае жаданьне да доўгатэрміновага крэдыту, памяншэньне процантаў, а таксама водпуск крэдыту грашмі. Перашкодай зьяўляецца малы тэрмін, на які адпускаецца крэдыт, і труднасьць у паручыцельствах.

*Наём рабочай жывёлы і інвэнтару.* У районе наглядаюцца выпадкі найму рабочай жывёлы, а таксама і інвэнтару; бедняні найбольш наймаюць рабочую жывёлу ў серадняноў.

У параўнаньні з даваенным узроўнем найм рабочай жывёлы павялічыўся. За апошнія тры гады выпадкі найму рабочай жывёлы і сельска-гаспадарчага інвэнтару паменшалі.

*Савецкія гаспадаркі.* Савецкіх гаспадарак у районе няма.

*Колектыуныя гаспадаркі, комуны і арцелі.* Па раёну маецца 4 арцелі па супольнай апрацоўцы зямлі, у якіх зямлі 373 дз., з якой: пад воранай—226 дзес., сенажацьцю—102 дзес. і іншай 35 дзес. Лік арцелей за апошні год паменшаў у сувязі з распадам апошніх з-за неўзгадненьня ў рабоце. У арцелі, галоўным чынамі, уступаюць бедняні, перашкодай у разьвіцьці арцелей зьяўляецца тое, што ўступаючыя ў арцелі ня маюць падгатоўленасьці, а таксама незразуменьне карысьці іх.

У арцелях існуе шматпольле, а таксама і культывіраваньне кармавых траў, што вельмі рэдка бывае ў сялянскіх гаспадарках; усе арцелі маюць крэдыт у Акрсельсаюзе на пакупку машын, насеньня і разьвядзеньне жывёлы. Арцелі зьяўляюцца прыкладам для сялянскіх гаспадарак у сэнсе разьвядзеньня кармавых траў, а таксама і шматпольля. РВК у сэнсе падняцьця гаспадаркі арцелей дапамагае ім агрономічнай дапамогай.

*Лясная гаспадарка.* Агульная плошча лясоў у районе—18105 дз. Лясныя масывы нераўнамерна распаўсюджаны па тэрыторыі раёну —усе лясы ў паўднёвай частцы раёну, а паўночная частка зьўляецца бязьлеснай, і задаваленьне насельнасьці ў паўночнай частцы, як апалам, гэтак і будаўлянай дравясінай у поўнай меры немагчыма.

Лясныя камісіі працавалі першы год і даць тыя вынікі, якія ад іх неабходна было-б атрымаць, не змаглі. Галоўная праца лясной камісіі абмяжоўвалася высьвятленьнем патрэбаў насельнасьці ў дравясіне і разьмеркаваньнем падлеглай водпуску дравясіны дзеля насельнасьці.

Прычыны выклікаючыя самавольныя парубкі: а) незадавальненьне насельнасьці ў поўнай меры, як апалам, таксама і будаўлянай дравясінай; б) кража лесу для збыту з мэтай заработку і в) несьвядомасьць і нядбайныя адносіны гр-н да лесу, ня гледзячы на тое, што Лясьніцтвам прымаліся і прымаюцца крокі да зьнішчэньня падобнага погляду шляхам растлумачваньня значэньня лесу ў сельскай гаспадарцы і, наогул, у жыцьці чалавека. За 1923-24 справаздачны год складзена 670 пратаколаў на суму—6342 руб. 91 коп. За 1924-25 год складзена пратаколаў—492 на суму—4458 руб. 08 кап. Самавольныя парубкі ў параўнаньні з даваенным узроўнем значна павялічыліся, тлумачыцца гэта, галоўным чынам, слабай караемасьцю і частым вызбаўленьнем ад штрафу па беднасьці.

*Лясы мясцовага значэньня.* Усяго пералічана ў лясы мясцовага значэньня—7127 дзес., з якіх: будаўляных—873 дзес. і дравяных—6254 дзесяціны, якія ўжо фактычна перададзены. З перададзеных вучасткаў насельнасьць можа быць задаволена апалам да 60 проц. і матар'яльным лесам да 25 проц.

Наглядаліся выпадкі драпежніцкага зьнішчэньня сялянствам перададзеных ім лясоў. Тлумачыцца гэта тым, што сялянства было больш зацікаўлена зямлёй, чым лесам, і не жадаючы выпусьціць з сваіх рук тую, альбо іншую лясную дзялянку, ахвотна брала яе як лес мясцовага значэньня, а затым пачынала яго вырубаць; да зьнішчэньня безгаспадарных адносін да лесу РВК прымаў належныя крокі шляхам выездаў на месцы і выяўленьня вінаватых для прыцягненьня іх да адказнасьці.

*Прамысловасьць.* Прамысловых прадпрыемстваў у раёне ў даваенны час было—23, з якіх: адзін вінаачышчальны склад, тры вінакурных заводы, 15 вадзяных млыноў, 2 смалакурні і два цагельных заводы. У сучасны момант існуюць: адзін вінаачышчальны склад, адзін вінакурны завод, адзін мукамольна-лесапільны завод, 2 паравых млыны, 14 вадзяных млыноў, 3 смалакурні і два цагельных заводы, а ўсяго 24 прадпрыемствы, з якіх усе дзейнічаюць за выключэньнем вінаачышчальнага складу, які ня дзейнічае ў сувязі з недахопам сырцу. У сучасны момант на гэтых прадпрыемствах працуе 58 рабочых. Дзяржаўных прадпрыемстваў—1, коопэрацыйных—2, а астатнія знаходзяцца ў арэндзе, 3 вадзяных млыны перададзены Кам. Узаемадапамогі. У сучасны момант вырабляецца: сьпірытус, цэгла, мука, крупы, дзёгаць, смала, скіпідар, дошкі. Сьпірытус адпраўляецца ў Дзяржсьпірт, мука, крупы, цэгла і інш. вырабы застаюцца на месцы для задавальненьня насельнасьці, скіпідар вывозіцца за межы раёну. Амаль-што ўсё абсталяваньне патрабуе частковага рамонту, але трэба адзначыць, што амаль-што ўсе млыны былі адрамантаваны. У карысьць мясцовага бюджэту арэнда млыноў дае 10300 рублёў. У раёне таксама ёсьць залежы крэйды, якая да сучаснага моманту яшчэ не выраблялася.

*Саматужная прамысловасьць.* У раёне распаўсюджаны наступныя промыслы: кравецкіх—78 прадпрыемстваў, у іх працуе 88 асоб; шавецкіх—33 прадпрыемствы у іх—52 асобы; кавальскіх—37 прадпр., у іх—52 асобы; аўчынных—6 прадпрыем., у іх 7 асоб; скураных—7 прадпрыем., у іх 9 асоб; сталярных—12 прадпрыем., у іх 17 асоб; сьлясарных—7 прадпрыем., у іх 7 рабочых, смалакурных 3, у іх 7 асоб, цагельных 2, у іх 5 асоб, ваўначосак—8, у іх 9 асоб, вяровачных—2, у іх 4 асобы. Павялічэньне прыкмячаецца у шавецкім і кравецкім промыслах. Галоўнымі заняткамі зьяўляюцца наступныя промыслы: шавецкі, кравецкі, кавальскі, сталярны, сьлясарны. У раёне існуюць сталярная арцель, шавецкая і працколектыў швэйнікаў. Коопэраваны толькі шавецкі і сталярны промыслы, якія маюць арцелі—першы у ліку—4 асоб і другі у ліку—5 асоб. Затрудненьнем у здабываньні сырцу зьяўляецца тое, што ўсе матар'ялы атрымліваюцца за гатовыя грошы, крэдытаў-жа няма.

У сэнсе падняцьця гэтых прадпрыемстваў прымаліся крокі шляхам уцягненьня саматужнікаў у арцелі і аб'яднаньні. Прылады промыслаў каштуюць: сталярнага—50 рублёў, шавецкага—25 руб., кравецкага—130 р., кавальскага—90 р., ваўначоснага—450 руб., аўчыннага—25 р., скуранога—35 руб., сьлясарнага—180 рублёў, смалакурнага—500 руб., цагельнага—250 руб.

*Праца.* Беспрацоўных рабочых па раёну налічваецца: сельска-гаспадарчых—23 асобы, прамысловых—3. Галоўным чынам наймаюць парабкоў серадняки і заможныя. Парабкі вярбуюцца амаль-што ўсе з беднякоў. Па раёну маецца парабкоў—225 ч. Сярэдні заработак парабкоў—4 рублі ў месяц і харчы. Умовы працы пакуль што цяжкія ў сувязі з маламоцнасьцю сельскіх гаспадарак раёну. Дзейнасьць рэгулюючых органаў заключаецца ў ахове працы, у заключэньні працумоў і выяўленьні незарэгістраваных батракоў, нагляд за выпаўненьнем працумоў, дапамога па беспрацоўю, папулярызацыя правіл і прыцягненьне ў саюз. У саматужных прадпрыемствах маюцца вучні, але трэба адзначыць, што іх мала. Рабочыя і вучні, галоўным чынам, набіраюцца з беднякоў, сярэдняя зарплата ў саматужнай прамысловасьці дарослага—4 рублі, вучня—2 р., акрамя таго даюцца харчы і спэцадзежа.

*Рынак і гандаль.* У раёне маецца адзін рынак спажывецкага характару, раённы цэнтр. Сувязь з рынкам падтрымлівае коопэрацыя праз пасрэдніцтва Акрсаюзу і Акрсельсаюзу. Кірмашовыя дні ў раённым цэнтры бываюць два разы ў тыдзень. На кірмашох маюць зварот сельска-гаспадарчыя продукты, дзераўляная і гліняная пасуда. Як у даваенны час, гэтак і цяпер бывае 7 кірмашоў у гаду, з якіх 4 ў раённым горадзе, і тры ў межах раёну.

Да вайны насельнасьць галоўным чынам свае продукты збывала прыватным гандляром, у сучасны момант збываюць коопэрацыі, а таксама і прыватным асобам; дзяржаўных загатавіцельных пунктаў у раёне няма. Загатоўку вядзе нізавая коопэрацыя ў ліку 9 коопэратываў. Купляюць па лімітных цэнах жыта, пшаніцу, ячмень, авес, грэчку, скураны сырэц і пяньку. Коопэрацыя закупляе 50 проц. сырцу, паступаючага на рынак, лімітныя цэны па магчымасьці трымаюцца. Задаваленьне раёну таварамі ў сучасны момант ідзе праз коопэрацыю і прыватных гандляроў. Гандаль знаходзіцца ў руках коопэрацыі і прыватных гандляроў папалам. Усяго гандлёвых прадпрыемстваў 1925 годзе было—87, з іх адно дзяржаўнае і 9 коопэрацыйных. Зварот коопэрацыі 244591 руб., прыватныя крамы знаходзяцца выключна ў раённым горадзе, коопэрацыйных крам у раённым горадзе—3 і ў вёсках—8. Насельнасьць цалкам задавальняецца таварамі, але бываюць выпадкі, калі тых ці іншых тавараў не хапае, як напрыклад, мануфактуры і жалезна-скабяных тавараў. У горадзе маецца аб'яднаньне гандляроў прыватных крам „Абразторг", які таксама часткай атрымлівае тавар у Акрсаюзе.

*Спажывецкая коопэрацыя.* Усяго па раёну маецца 6 спажывецкіх коопэратываў з 8-ю крамамі, з якіх дзьве знаходзяцца ў горадзе і 6 у вёсках. Налічваецца сяброў—1481, коопэравана 19 проц. усіх гаспадарак. Сябрамі спажывецкае коопэрацыі, галоўным чынам, зьяўляюцца серадняки; амаль-што ўсе тавары для коопэратываў атрымліваюцца праз Акрсаюз, Трэсты і Сындыкаты. Паявы капітал коопэратываў—7078 руб. 99 кап. Другія капіталы—5808 руб. 90 кап. Адчуваецца недахоп, галоўным чынам, у мануфактуры. Коопэрацыя аказвае дапамогу матар'яльнымі сродкамі як грамадзкім, гэтак і вайсковым організацыям. Асыгнаваньне робіцца на гэту мэту ў межах магчымасьці. У мясцовым жыцьці коопэрацыя прымае ўдзел у коопэраваньні насельнасьці, прасоўваньне промтавараў у вёску і з вёскі продуктаў сельска-гаспадарчае вытворчасьці, ахваце рынку, барацьбе з прыватным гандляром шляхам зьніжэньня цэн і культурна-асьветнай працы сярод насельнасьці.

*Комунальная гаспадарка.* Па гарадзкому дабрабыту за 1925 год амаль-што нічога ня было зроблена за адсутнасьцю сродкаў. Часткаю адбудаваны тротуары на працягу 300 пагонных мэтраў і зроблена пасадка дрэў. Па будаўніцтву ў горадзе было зроблена наступнае: капітальна адрамантаваны тры каменных дамы, дабудаваны і перабудаваны для дапрызыўнага пункту адзін каменны дом, у дварэ РВК пастаўлена новая пуня.

У адносінах вясковага дабрабыту за адсутнасьцю сродкаў нічога ня было зроблена. Вясковае будаўніцтва знаходзіцца ў руках самое насельнасьці.

Агнятрывалае будаўніцтва ў раёне адсутнічае ў сувязі з недахопам матар'ялаў. У гэтай галіне вядзецца праца пажар'інструктарам, але вынікаў няма за адсутнасьцю майстэрань і матар'ялаў.

У раёне ёсьць адна профэсыянальная пажарная каманда з неабходнай колькасьцю пажарнага інвэнтару, а таксама налічваецца 15 дабраахвотных пажарных дружын, якія знаходзяцца на раёне і пры якіх ёсьць 15 машын.

Па раёну налічваецца дарог дзяржаўнага значэньня—24 версты, акругавага значэньня—35 вёрст і мясцовага—300 вёрст. Становішча палатна і мастоў: здавальняючае. Асыгнавана на рамонт мастоў раённага значэньня ў 1925-26 годзе—450 рублёў, на рамонт дарог і мастоў па раёну патрабуецца—5000 рублёў. Налада палатна шляхаў мясцовага значэньня часткаю праведзена ў парадку шляхавай павіннасьці.

*Раённы бюджэт і падаткі за 1924-25 г. і за 1925-26 г.* Агульныя сумы прыбытковай і выдатковай часткі наступныя: прыбытковая—1925-26 г.—90858 руб.; 1924-25 год 84781 руб. Выдатак 1925-26 году—135032 р.; 1924-25 год—84781 р. У 1924-25 годзе дэфіцыту ў раёне ня было. У 1925-26 годзе дэфіцыт—44074 руб.

Арэндная палітыка ў сучасны момант хоць і не дае належных вынікаў, але ўсе-ж яна дае магчымасьць паднімаць тую разбураную гаспадарку, якая павінна быць адноўлена. Усе крыніцы даходаў па раёну падлічаны. Для падняцьця неападаткаванага даходу неабходна аднавіць сады, млыны, а таксама правесьці пунктуальны контроль за паступленьнямі Лясьніцтва, Нарсуду, Земкамісіі і інш.

Да складаньня каштарысу прыцягваюцца ўсе ўстановы раёну і нізавы апарат. У раённы бюджэт цалкам ідуць наступныя падаткі: дадатковая рэнта, падатак з будынкаў, з адпускаемай дравясіны, падатак з транспартных сродкаў, падатак з жывёлы, падатак з публічных прадстаўленьняў, увесяленьняў, падатак з плякатаў і афіш.

Выкананьне прамысловага падатку ішло здавальняюча і ў сучасны момант выканана на 90 проц.

*Страхаваньне.* Усяго па раёну застрахавана: а) будынкаў гарадзкіх 270; б) будынкаў сельскіх 7596; дзесяцін пасеваў 21399; рагатай жывёлы 13378 шт.; гарадзкіх коней 81.

Адносіны насельнасьці да страхаваньня ўсіх відаў добрыя.

| Выплачана страты: | ў 1924-25 г. | ў 1925-26 г. |
|---|---|---|
| Ад пажараў . . . . . | 18.124 руб. | 848 руб. |
| „ страты кароў . . . | 6004 „ | 3.352 „ |
| „ страты коней . . . | — | 240 „ |
| Па градабіцьцю . . . | 8.148 „ | — |

Усе паказаныя лічбы адносяцца да абкладнога страхаваньня, што-ж тычыцца да неабкладнога страхаваньня, то па ім было выплачана страты ў 1924-25 г. 2784 руб.

Усе прэміі па стратах выплачваюцца ў хуткім часе, што-ж тычыцца да выплачваньня страхавых узносаў, то яны своечасова выканаць на 80 проц.

*Культурнае становішча.* Па раёну налічваецца школ у 1925-26 годзе—51, з іх 2 сямёхгодкі. У 1924-25 годзе іх было—45, з іх 2 сямёхгодкі; астатнія школы вясковага тыпу. Школьная сетка, якая складалася ў 1924-25 годзе з ліку—8324 дзяцей школьнага ўзросту, ад 7-мі да 15-ці гадоў, ахоплівала толькі—3381 чал., што дае толькі 40,6 проц., у 1925-26 годзе дзяцей школьнага ўзросту маецца 8126, ахоплена школамі—3813 чал., што складае—46,9 проц., такім чынам мы маем досыць значны процант дзяцей, якія не ахоплены да гэтага часу школамі, асабліва гэта тычыцца да дзяўчат, якія вельмі ў малым ліку ходзяць у школы. Дзеці ахопленыя школамі на 25-26 год падзяляюцца ў наступным парадку: хлопцаў—2733, дзяўчат—1080.

Гаворачы аб памяшканьнях школ, неабходна адзначыць, што значная частка іх знаходзіцца ў наёмных будынках, якіх налічваецца—13, бяз Дубраўскай умоўнай школы, і 37—у дзяржаўных будынках. Тут заўважваецца, што значная большасьць будынкаў і ў першую чаргу дагаворныя школы не адпавядаюць умовам школьнай працы, але трэба адзначыць, што ўсе-ж такі некаторыя дасягненьні ёсьць.

У 1924-25 годзе адпушчана грошай на рамонт школ—2993 руб., на 25-26 год—на дробны рамонт—3350 руб. і на капітальны рамонт —1600 руб., якія адпушчаны па каштарысу на азначаны год. Большасьць школ маюць выгляд здавальняючы, але-ж тут усе-ж такі трэба даць некаторы рамонт, які неабходзен. У 1925-26 годзе школьная сетка пашырылася на 6-ць новых школ, якія таксама па свайму становішчу не адпавядаюць сталай школьнай працы.

Школьныя зямельныя вучасткі ёсьць пры 30 школах і складаюць разам плошчу—70,85 дзес. поля і 14 дзес. 144 кв. саж. сенажаці; у 1924-25 годзе вышэйпералічаная маемасьць дала 104 руб. 14 кап. і 53 п. жыта, якія ішлі выключна на падтрыманьне настаўніцтва; у мінулым 1925 годзе, згодна загаду Наркамасьветы, сродкі ад гэтай маемасьці далі значную частку дапамогі на рамонт школ. Для выяўленьня прыбытковасьці пры ўсіх Сельсаветах былі створаны Камісіі, якія рабілі ацэнку кожнага вучастка. Неабходна адзначыць, што зямельныя вучасткі, амаль што не абслугоўваюць самых школ ў сэнсе наданьня ім сельска-гаспадарчага ўхілу, і гэта мэта у 1925-1926 г., згодна абежніку Наркамасьветы, павінна быць праведзена ў жыцьцё з тым, каб зямельныя школьныя вучасткі зьяўляліся паказальнымі для сялянства. Дзеля таго, каб загатовіць і даставіць усім школам апал, яшчэ ў пачатку заняткаў быў складзены агульны каштарыс на 125 з паловаю сажняў дроў, на якія былі атрыманы білеты з Лясьніцтва. Білеты былі перасланы ўсім Сельсаветам своечасова, каб перавесьці дровы да пачатку навуковага 1925-1926 году, але гэта праца некаторымі Сельсаветамі праводзілася вельмі слаба.

Падручнікамі школы сталі больш-менш забясьпечвацца. Калі ў 24-25 г. было агулам разданых падручнікаў—2825, то ў 25-26 годзе было дададзена яшчэ—2355; атрымліваемыя падручнікі выключна разьмяркоўваліся па школах раёну. Што тычыцца сямёхгодак, то ім падручнікі не выдаваліся, дзякуючы таму, што сямёхгодкі не ўваходзяць у каштарыс раёну.

Наогул, пісьмовых прылад, а таксама падручнікаў для дзяцей не хапае і ім самім прыходзіцца іх купляць. Школы па раёну забясьпечаны пісьмовымі прыладамі на 75%.

З політасьветных установаў у раёне знаходзіцца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Хат-чытален дзяржаўных | 3 | Бібліотэка — — | 1 |
| „ дабраахвотн. | 22 | Профклюб — — | 1 |
| Лікпунктаў дзяржаўных | 4 | Лікпункаў дабраахвотных | 32 |
| Вячэрняя школа — — | 1 | Політшкола — — | 1 |

Пры хатах-чытальнях існуюць наступныя гурткі: сельска-гаспадарчы, політычны, прыродазнаўчы, беларусазнаўства і па некаторых хатах-чытальнях, антырэлігійны і па вывучэньню ленінізму, драматычны і харавы. Кіраўнікамі гурткоў зьяўляюцца ў большасьці настаўнікі і загадчыкі хат-чытальняў, а таксама прыватныя грамадзяне, асабліва комсамольцы. Слухачы цікавяцца галоўным чынам сельска-гаспадарчым і політычным гурткамі. Па раёну выпісваецца газэт—1137 экз., часопісаў—94; галоўным чынам газэты выпісваюцца сялянствам. Сялянства аказвае дапамогу школам у сэнсе вывазкі дроў, пабудоўлі новых школьных будынкаў і рамонту старых.

На абшары ўсяго раёну знаходзіцца адна бальніца і чатыры фэльчарскія пункты, адна аптэка, якія абслугоўваюць прыблізна 35 проц. усяе насельнасьці.

РВК прымае ўсе крокі да таго, каб палепшыць становішча школ, пашырыць іх, а таксама і мэдпунктаў.

*Грамадзкія організацыі.* Раённы Камітэт Узаемадапамогі яднае 15 сельскіх камітэтаў. Раённы Камітэт Узаемадапамогі аказвае на 50% дапамогу маламоцным гаспадаркам.

Камітэтамі Узаемадапамогі зарэгістравана: сямей чырвонаармейцаў—98, інвалідаў—104, сямей інвалідаў—62, бясконных—138, пагарэльцаў—46 і беднякоў—681, а ўсяго—1129. Усяго атрымалі дапамогу за 1924-25 год: сямей чырвонаармейцаў—87, інвалідаў—92, сямей інвалідаў—48, бясконных—115, пагарэльцаў—74 і беднякоў 235, а ўсяго—651; па роду дапамогі: хлебам—у 193 выпадках, грашмі —у 41 выпадку і лесаматар'яламі—135, працгуждапамогай у 168 выпадках; вэтмэдычнай дапамогай—104, юрыдычнай—27, працілай —83 працоўныя дні.

Выдадзена дазволаў на атрыманьне лесамар'ялу на ільготных і бясплатных умовах: сем'ям чырвонаармейцаў—15 на суму —254 руб. 76 кап., пагарэльцам—16 на суму 398 руб. 16 кап., перасяленцам—9 на суму—123 руб. 75 кап., бедняком і ўдовам—42 на суму—553 руб. 95 кап., а ўсяго на суму—1350 р. 62 кап. і дарэмна адпушчана насельнасьці з канфіскаванага лесу—282 дрэвы, а таксама Селькамітэтамі было адпушчана 154 дзес. сенажаці для сямей чырвонаармейцаў і беднякоў на ільготных умовах.

Агульны фонд райкамітэту на 1-е студзеня—1925 г.: хлебам— 56 п. 13 ф., пры рэалізацыі якога было атрымана—73 р. 48 кап., а ўсяго маецца грашмі—934 р. 79 кап. Фонд селькамітэтаў—1272 р. 73 кап. Усяго выдана з фонду раённага камітэту—853 руб. 03 кап., і з фондаў селькамітэтаў—грашмі—269 р. 21 кап. і хлебам—2220 пуд. 1½ ф. Трэба адзначыць, што як сяброўскія ўзносы, а таксама зварот запазычанасьці паступае вельмі слаба. У 1926 годзе фонд селькамітэтаў павінен на многа павялічыцца ў сувязі з пераходам селькамітэтаў на колектыўнае дабраахвотнае сяброўства. Акрамя таго, Райкамітэтам і Селькамітэтамі выпісвалася па дзьве газэты і аднаму часопісу. Райкамітэт таксама прымаў удзел у працы культасьветных

установ: на сродкі яго адчынена хата-чытальня, а таксама прымаў удзел у ўкомплектаваньні школ сямёхгодак. Арганізавана—12 сельска-гаспадарчых дружын, 10 працарцелей для вытварэньня дапамогі, 8 арц. лесарубаў і 5 арцелей возчыкаў. Уплыў на ўтварэньне колектыўных форм гаспадарак слабы. Тормазам у працы камітэтаў зьяўляецца неаплата нізавых працаўнікоў.

*Грамадзкія організацыі*: Краязнаўчае Т-ва, з лікам ячэек — — 1

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | і лікам сяброў | — | 61 |
| МОПР — — — — | 11 | „ | „ | 702 |
| Авіяхім — — — — | 6 | „ | „ | 200 |
| Прэч. няпісьменнасьці — — | 1 | „ | „ | 102 |

Усе паказаныя грамады ў сучасны момант маюць разьвіцьцё, а галоўным чынам, МОПР і Авіяхім, у сэнсе пашырэньня свае дзейнасьці.

***Быт мястэчка і сяла.*** У сувязі з падняцьцем культурнага ўзроўню насельнасьць ў быце вёсак ёсьць вялікае зьмяненьне ў жыцьці, што, галоўным чынам, адбіваецца на сельскай гаспадарцы, як-та: пераходы на шматпольле, пасевы кармавых траў і г. д. Культурна-асьветныя ўстановы ў гэтым дапамагаюць насельнасьці. Акрамя таго, моладзь і дэмобілізаваныя чырвонаармейцы, якія знаходзяцца ў вёсках, прымаюць актыўны удзел у працы Савецкіх установ; да рэлігіі адносяцца адмоўна, але сталасьці перакананьня ў гэтым пакуль-што не прыкмячаецца ў сувязі з рэлігійнымі традыцыямі сям'і.

Моладзь і дэмобілізаваныя чырвонаармейцы зьяўляюцца актыўнай часткай сялянства і гуртуюцца вакол Саветаў і іх Камісій.

---

Адказны Редактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

